
Карцінкі з глыбінкі 4

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Вершы Дарыюша Жукоўскага 9

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 16 (3232) Год LXIII Беласток, 22 красавіка 2018 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

## Да юбілею 60-годдзя Літаратурнага аб'яднання «БЕЛАВЕЖА»

Міра ЛУКША

# У пошуках свайго голасу

Верш — згартанне хараства ў пракосы,
Хвалі траў пахучых і зялёных,
Расплятанне, заплятанне косаў,
Бацькаўшчыне верш — паклонам.

*Алесь Барскі*



Семінар «Белавежы» ў 1959 годзе (буд. Прафсаюзаў). У першым радзе злева направа: Уладзімір Гайдук, Ян Чыквін, Пятро Чэрнякевіч, Сакрат Яновіч. У драгім радзе – Мікола Буцылін, дац. Уладзімір Лазарук, Алесь Барскі, Віктар Швед. Стаяць – першы злева: Вацік Асіповіч, далей – Люба Красоўская, дац. Аляксандр Жураўскі, і крайні – Янка Анісэровіч (Яша Бурш).




— Ты глянь, і я ўжо такая старая як... «Белавежа»! — азіраючыся ў люстра, кажу сяброўцы-аднагодцы, нашай чытачцы. Быў час, калі мы ўтраём рабілі ў «Ніве» сваё... 120-годдзе. З нас траіх на свеце 8 чэрвеня 1958 года быў ужо будучы перакладчык і літаратурны крытык Янка Максімюк, Галіна нарадзілася ў кастрычніку, а я аж у лістападаўскую нядзелю, калі адбываўся з'езд Беларускага таварыства. Уся гэтая беларуская кампанія нашых бацькоў — будучых нашых калег, жвава краталася на беларускай ніве, таксама дзеля нас. І яны доўгі час былі, і з часам адышлі ў Патойбаковію, пакінуўшы ніву наступным аратым і сейбітам. І хоць яны ў сваіх творах успаміналі пра праміннанне, не мелі часу на турботы пра вядомасць і захаванне сваіх слоў на рукатворных помніках. Гуртаваліся, з «Нівай». У Беларускім літаратурным аб'яданні «Белавежа».

Сярод удзельнікаў арганізацыйнага сходу пісьменнікаў, скліканага Георгіем Валкавыцкім на 8 чэрвеня 1958 года, былі Уладзімір Гайдук, Янка Дубіцкі (Ян Чыквін), Янка Беразавец, Восіп Мялеша, Андрэй Беразавец, Дзмітрый Шатыловіч, Віктар Швед, Сакрат Яновіч, Яша Бурш, Алесь Свісёк (Аляксандр Батура), Мацей Канапацкі, Пятро Ластаўка, Францішак Берніковіч, Алесь Барскі (Аляксандр Баршчэўскі), Антось з Лепля (Антон Васілеўскі). Антон Васілеўскі народжаны ў 1891 годзе, роўна сто гадоў перад адной з наймалодшых сябровак цяперашняй «Белавежы» — Кацярынай Сянкевіч. Галіна Тычка назвала заснаванне 8 чэрвеня 1958 года ў Беластоку літаратурнага аб'яднання пры рэдакцыі штотыднёвіка беларусаў Польшчы „Ніва" гістарычнай падзеяй агульнанацыянальнай значнасці. У 1962 годзе аб'яднанне атрымала вельмі трапную назву „Белавежа", пад якой і ўвайшло ўжо ў гісторыю беларускай літаратуры. І прарасло засеенае слова, і вырасла рунь на ніўскім палетку, дагледжаным першым ніўскім рэдактарам Георгіем Валкавыцкім, і закаласілася пару сотнямі загалоўкаў кніг.

„Ніву" і «Белавежу» арганізаваў сціплы «литературный работник», белавежац, выпускнік Літаратурнага інстытута імя Максіма Горкага ў Маскве. Ён і запрапанаваў малодшым калегам літаратурную школку, што прынесла відны плён. Гартаем пажоўклыя крохкія старонкі „Нівы"... Паміж вершамі Цёткі, класікаў і будучых класікаў беларускай літаратуры, таксама не друкаваных у Беларусі, як у той час спакутаваны ссылкай Сяргей Грахоўскі, і маладзенькі Генадзь Бураўкін, студэнт БДУ, — штораз адважнейшыя радкі нашых тутэйшых паэтаў. Адвагі дадае сам Галоўны. Гэта ён знайшоў у бельскім белліцэі Янку, спачатку Дубіцкага, рассакрэціў Сакрата, аб якім ведаў толькі, што гэты чубаты чарнявы хлопец — з Крынак, пасля электрычнага тэхнікума, цікавіцца тэхнікай ды... займаецца. Ну, і, вядома, ведае беларускую мову. А Андрэй Сошка выклікаў Валодзю хіба сваім вершам 25 жніўня 1956 г. (№ 26), заклікаючы яго да «калектыву» (у вершы «Эн... калгасны). А наш Валодзя, Гайдук, з Тарнопаля, і ніколі ён не пойдзе ў кагал, хаця і стане пасля адным з першых членаў літаратурнага аб'яднання. Валодзевы першыя вершы надрукаваны былі 21 кастрычніка 1956 года ў 34 нумары ў рубрыцы «Шукаем талентаў» — «Заход сонца» і «Зіма ідзе»: «І калі (снег) рунь акрые, / Нястрашны вецер ёй, што выве!»... А ў наступным — 35 — нумары «Восень у лесе». Дасылае свае вершы і М. Базылюк, засакрэціўшы тое, што жыве ён быццам у Гданьску, і імя сваё (Мікола Дварэцкі). Розныя аўтары, з розным лёсам і жыццёвым досведам, але апынуцца яны ў нашай літаратурнай грамадзе, сабранай Георгіем Валкавыцкім, пасля пад вянцом «Белавежы» і пад першай вокладкай «Рунь», што выйдзе ў 1959 годзе як першая сапраўдная літаратурная кніга на Падляшшы... Паявяцца ў «Ніве» вершы Лёні Рудэчкі з Плёсак (для дзяцей), Ягора-Анатоля Хлябіча з Валіл, Валодзі Дарашкевіча з Меляшкоў... Паявяцца творы аўтараў шырэйшага маштабу, як лірыка і крытыка мастака Яшы Бурша (Яна Анісэровіча — Івана Бокшы)... Пісаў Галоўны: «Дзіўнымі маршрутамі хадзіла „Ніва". З цяжкасцю прабіралася на Беларусь, без перашкод трапляла на Калыму. Адтуль пошта дастаўляла ўсхваляваныя лісты. З Краснаярскага краю прыйшлі і вершы „Сібірака" (18.8.1957 і далей). З'явіўся і сам. У доўгай скуранцы (у нас такую насіў толькі салдны Міхась Баравік), пажылы чалавек.
— Шэршань! — прадставіўся. Прапаную сесці — не хоча, спяшаецца на цягнік.
— Скажыце хоць, што рабілі да вайны?
— Настаўнічаў. Вось і ўся гутарка. Не пакінуў нават адрасу». Зачасцяць вершы хлопца з Крушынян Аляксандра Макаля, з Валіл — Анатоля-Ягора Хлябіча, Міколы Базылюка, ды амаль што ў кожным нумары «Нівы» пятнаццацігодка з Тарнопаля Уладзіміра Гайдука, Янкі Дубіцкага (Яна Чыквіна) — вершы і проза, і сямнаццацігадовага хлопца з Меляшкоў, які неўзабаве стане прысылаць вершы з сілезскіх шахтаў — Уладзіміра Дарашкевіча. Паявіцца на старонках яшчэ адзін сваяк-Баршчэўскі — Васіль, які хутка пойдзе ў спелую прозу. Мікола Гайдук, які нясмела пачне як Міка, стане друкаваць таксама гістарычныя нарысы, што

працяг 12

977054619601 7



# Скарб

Колькі навін за апошні час! І пераважная большасць з іх насцярожваюць і нават палохаюць. Узяць хаця б амерыкана-еўрапейскі абстрэл сірыйскіх аб'ектаў, дзе Расія заявіла, што можа даць у адказ. Ну як не напалохацца пагрозамі дзвюх нашпігаваных ядзернай зброяй краін РФ і ЗША ў бок адзін другога? А заява расійскага начальніка, што свет без Расіі яму, і многа каму яшчэ, зусім непатрэбны?! Ён так і сказаў, „нам". Гэта значыць і мы, беларусы, як частка таго свету, таксама некаму „ім" непатрэбныя. Жудасць!

Ну а ў Гародні знайшлі скарб. На даху старога гарадзенскага дома знайшлі. Золата! Больш чым дваццаць залатых манет, а таксама залатыя зліткі, залатыя ланцужкі, залатыя пярсцёнкі, часткі залатога медаля і нават зубныя пратэзы — таксама залатыя. Сапраўдная залатая навіна — станоўчая як залаты чырвонец. Вось жа ўдача!

Праўда, улады гавораць, што наш беларускі галоўны скарб, гэта нашы людзі. І я аніводнага слова з гэтага выслоўя не стаўлю пад сумнеў. Тут я з нашай уладай хіба што ўпершыню згодны на ўсе сто. Так, пацвярджаю. Галоўны скарб нашай улады гэта нашы людзі. І ў гэтым няма аніякага сумневу.

Апаненты могуць запярэчыць. Маўляў, раз людзі гэта скарб, то чаму да іх такія адносіны. На рабоце кантракты і кантроль, пасля работы кантроль і кантракты. (Пад кантрактамі пасля работы маюцца на ўвазе негалосныя дамоўленасці ўлады і народа. Ну ёсць жа такое разуменне як негалосная дамоўленасць). Маўляў, вы нас не чапайце, а мы вас ва ўпор не бачым. І народ, нібыта, усе гады гэтую негалосную дамоўленасць выконваў бездакорна і носа не сунуў у справы ўлады. Ну за выключэннем апазіцыі, якая таксама як бы народ. Але гэта на агульны малюнак аніяк не ўплывала. А вось улада ўвесь час рабіла выгляд, што аніякай дамоўленасці няма і ўсё ламала галаву, што яшчэ прыдумаць, каб выслоўе, што наш галоўны скарб гэта наш народ, не згубіла сваёй актуальнасці.

І яно ніяк у нашых беларускіх рэаліях не можа згубіць гэтай актуальнасці. Бо з каго ўлада можа ўзяць сродкі на існаванне. Ну ясна, што з народа, а не з дапатопнай жа эканомікі. З эканомікі могуць дазволіць сабе жыць амерыканцы. Іх галоўны скарб, гэта іх эканоміка. За яе і змагаюцца, сочаць за ўсялякімі там эканамічнымі індэксамі, каштоўнымі паперамі і яшчэ цэлай кучай розных рэчаў. Навошта ім нейкі залаты скарб з нейкіх там зубных пратэз? Яны на звычайнай паперы напішуць, што іх папера гэта і ёсць золата, і ўсё! І ўвесь свет пачынае дурэць ад гэтых папер, бо яны эканомікай падмацаваны. У іх нават галоўная зброя з непрыяцелем гэта эканамічныя санкцыі. Ну а калі прымяняюць вайсковую сілу, дык стараюцца не ў людзей патрапляць. Галоўны ўдар гэта эканамічная аб'екты праціўніка.

У рускіх свае прыярытэты. Яны жывуць з прыродных выкапняў і таму за іх змагаюцца. Ім усё зямлі мала, усё тэрыторыю пашыраюць, бо прыродныя выкапні акурат у зямлі і на зямлі знаходзяцца. Яны скарб у выглядзе залатых манет знайсці і не спадзяюцца, тым больш з зубных пратэзаў. Ну хто ў іх мог яго закапаць? Бо калі там, у Расіі, нехта разбагацее, то яго скарб закапаны ў швейцарскім банку, або ў падобных варожых установах Еўропы і Амерыкі. Бо там эканамічнае развіццё, палітычныя свабоды, раздзяленне ўлад і незалежны суд гарантуюць яго недатыкальнасць. Таму пакідаць свой скарб у Расійскай Федэрацыі аніводзін рускі не адважыцца. Радзіма радзімай, а грошы грашамі. Радзіму, маўляў, любім больш чым усе іншыя людзі і народы, але ўласныя грошы трымаем падалей ад яе чэпкіх лап. Такая вось загадкавая расійская душа.

А што такое скарб? Гэта тое, з чаго ўладальнік скарбу можна жыць балююча і ні ў чым сабе не адмаўляць. Вось і атрымліваецца, што ў нас галоўны скарб гэта наш народ. Больш нічога няма — ні прыродных выкапняў як у РФ, ні эканомікі як у ЗША, ні жадання яе мець.

Знойдзены ж у Гародні скарб цяпер будзе ў музеі, дзе яму і месца, як і ўсім скарбам, і будзе ахоўвацца дзяржавай. Ну а беларускі народ, як галоўны скарб краіны, пакуль што не з'яўляецца музейным экспанатам. І функцыі яго аховы вызначаюцца для кожнага індывіда персанальна.

Віктар САЗОНАЎ

# Асфодэль
## значыць златацветнік

Я проста анямеў. У Гданьску прайшла па вуліцах працэсія ОНР. Са згоды гарадскіх органаў, пры садзейнічанні паліцыі, якая, вядома, ахоўвала яе. На здзіў усёй Польшчы, але перш за ўсё жыхароў Гданьска, па большай частцы нашчадкаў тых, хто «з-за Буга», «з-над Віліі», але і ахвяр сумна вядомай акцыі «Вісла» — лэмкаў, украінцаў, а і немалой абшчыны татар, беларусаў і літоўцаў, а таксама кашуб і жменькі нямецкай меншасці... Гданьск з'яўляецца такім польскім паўвостравам мультыкультуралізму, з дзвярамі адкрыты на ўсе землі і партовае акно на моры і акіяны. Гэта польскі пачатак Еўропы і свету. Ды вось тыя дзверы і акно раптам захлопнулі. Мабыць, з-за чыноўніцкага недагляду. Галоўнай вуліцай горада раскінулася калона з некалькіх соцень маладых і вельмі маладых людзей, якім невядомая гамулкаўская беднасць, забастоўкі салідарнасці ці першыя драматычныя гады палітычных пераўтварэнняў. І, верагодна, таксама невядомая ім сама Еўропа, і ўвесь свет. А нават тое, што плёскаецца ў цемрані іх зацвярдзелых чарапоў урыўкамі думак або лушпіннем ідэалагічных клішэ. Можна было б махнуць рукою: ат, маладыя! Мусяць яшчэ навучыцца, дасведчыць... Але сцягі, якімі патрасалі, воклічы якія дэманстратыўна падымалі, не мелі нічога агульнага з бяздумнай артыкуляцыяй спантаннай шуміхі, з юнацкім бунтам дзеля бунту. Іх змест быў старанна прадуманы, а мэта — знявага, канфліктаванне, дэстабілізацыя. Я не думаю, што гэта іх свядомы намер. Хто за імі стаіць? Я не дам галаву, але сур'ёзныя аналізы накіроўваюць увагу на пуцінскую Расію. На працягу больш дзесяці гадоў яна пранікае ў неанацысцкія асяроддзі па ўсёй Еўропе, спрабуючы рэстытуяваць іх сацыяльна і накіраваць у бок сваіх імперскіх інтарэсаў. Чаму ОНР і падобныя прафашысцкія або крайнія нацыяналістычныя рухі яшчэ не забаронены ў Польшчы? Са злавесным лозунгам «Польшча для палякаў» мы ўжо знаёмы. Але як зразумець новы, падняты ОНРам «Гамагенны народ будучыняй Вялікай Польшчы!»? Кіруючая цяпер улада справу паніжае. Ці, можа быць, і не... У рэшце рэшт, безумоўна, мае палітычную глаўкому. І каб хоць толькі тое!

Польскі антысемітызм стаў знакавым. Ніхто ў свеце не сумняваецца, што палякі да габрэяў праяўляюць непагасную варожасць. Калі не актыўную, то, безумоўна, слоўную. На жаль, тое што сказана, аказвае ўплыў на тое, што думаеш, а тое, што думаеш на тое, што робіш. Можа хто-небудзь думае, што антысемітызм не адносіцца да іншых нацыянальных меншасцей. Няпраўда. Тлее пад ім ксенафобскае парахно прыгонна-панскай ментальнасці, якая, хоць і антаганістычная, у адным праяўляе сваю агульнасць — агіду да ўсяго, што не сваё, невядомае, іншае, чужое.

ОНР у сваёй назве не мае нічога агульнага з варожым драпежніцтвам. Больш таго, назіраючы ў час маўлення гэтых гукаў працу языка, што раз пясціць кончыкам ніжнія дзясны, раз верхнія, можна адчуць нейкае пачуццёвае задавальненне. Такія кластары гукаў прыгожыя. Не заўсёды, аднак, яны з'яўляюцца транспортэрам прыгожага сэнсу. Для майго лінгвістычна чуткага вуха такія словы, такія як асафетыда або аскарыды здаюцца прыгожымі, але яны абазначаюць адпаведна: д'яблаў памёт і глісты. Гэта выклікае дыскамфорт у мяне. Я мяркую, каб «ОНР» выміраць з аналагічным дыскамфортам, маючы на ўвазе яго ідэалагічнае паходжанне. Але асцерагаю, каб не адпуджваць ад прыемна гучаўшых слоў. Я знайшоў прыгожае па вымаўленні і значэнні слова «асфодэль». Інакш златацветнік. Прыгожая кветка.

Здавалася б, што польская ксенафобія выбухнула з прыходам да ўлады партыі Я. Качынскага. Нішто не можа быць далей ад ісціны. Ксенафобія, нацыяналізм, антысемітызм, расізм даўно жаруць польскую культуру. І, верагодна, таксама і калектыўны менталітэт. У 2009 годзе ў галерэі «Захэнта» — флагманскім цэнтры польскага мастацтва і культуры — працу дырэктара страціла Анда Ротэнберг, мастацтвазнаўца, вялікая знаўца польскага жывапісу, адным словам, адпаведны чалавек на адпаведным месцы. У інтэрв'ю ў адной з самых чытаных газет былая дырэктарка сказала не без шкадавання аб бескарыслівым, натуральна польскім антысемітызме, які ў рэчаіснасці выгрыз яе з ганаровай пасады. Адзін важны ёлупень, дэпутат сейма, публічна быў заявіў, што чалавек з **такім** прозвішчам не мае права весці нацыянальную галерэю. Я ледзь не спруцянеў. Гэта было першы раз. Некалькі дзён таму другі раз. Трэці раз траплю на... златацветныя лугі. Ну, хопіць.

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Праваднвя нядзеля на Бацькаўшчыне (ч.2)

Нядзельны ранак у Беластоку на Правадную нядзелю. Ідучы ў царкву, нельга не радавацца прыгажосці зямнога свету. Проста дзень раней прайшла над горадам першая веснавая бура з грымотамі і праліўным кароценькім дожджыкам, якія далі сімвалічны старт у бадавочную і трывалую ўжо перамогу веснавога шаленства над подыхамі адступаючай зімы. Як неверагодна і фантастычна за адну ноч пазелянела трава, а слівы-дзічкі зацвілі белымі-белымі пялёсткамі. Быццам галовы маладых нявест упрыгожылі вэлюмы неапісанай далікатнасці і прывабнасці. А побач усе іншыя дрэвы і кусты раскрылі свае пупышкі з інтэнсіўнасцю такіх натуральных колераў, ад якіх красак і водару галавакружэнне будзе спадарожнічаць нам цягам бліжэйшых тыдняў. І самыя лепшыя і дарагія фарбы ды парфума гэтага свету не заменяць і не аддадуць усёй зладжанай сімфоніі веснавога аркестра. Увесь наш арганізм убірае і адчувае сваёй пачуццёвасцю і пажадлівасцю гэтае шматступеннае і паліфанічнае спляценне інтэнсіўнасці і тонкасці бачання і дыхання жыццярадаснага прабуджэння красуні вясны.

Яшчэ пашчасціла мне некалькі дзён раней правесці час над разлўнымі прасторамі Нарвы. Каралеўства птушак, якія купаюцца ў нябесных і вадзяных прасторах і адбіццях, гойданых ветразямі паветра, усведамляюць пра кароткачасовасць нашага зямнога гарызонту. Усё плыве — гаварылі старажытныя грэкі; усё праплывае і мінае, калі ўглядаўся я ў русло падляшскай Нарвы. А яна нясе і нясе з сабою маўклівую праўду пра прыродны свет Божы, напоўнены галасамі тых жывёл, якіх не разумее род чалавечы. Аднак іхнія гісторыі напэўна не менш драматычныя і трагічныя за чалавечыя выпрабаванні.

Там менавіта, над ракой, узніклі мне перад вачыма вобразы і словы пра майго тату, якія напісаў я калісьці ў сваёй маладосці. «Насупраць веснавога паветра, мой бацька пахіленым ідзе, пражыць яшчэ адну вясну». Менавіта радавацца вобразам і пахам паветра вучыў нас тата. І для яго гэта было і па сення ёсць тым багаццем, якога нішто і ніхто з простых смяротных не адбярэ.

Таму такая прыгожая Правадная нядзеля, калі мы задумваемся над нашымі адышоўшымі сямейнікамі, аднавяскоўцамі, сябрамі. Яна проста дазваляе нам мацнець тут і зараз і старацца з абаронным шчытом перападоль усе настрої сумнявання ці дэпрэсіўныя адчуванні. А людзей менавіта як птушкі цягне да сваіх родных гнёздаў, на свае прыхадскія могілкі і пад прыдарожныя крыжы. Ужо будучы ў царкве, я са здзіўленнем пабачыў, што ўсе змесціліся ўсярэдзіне, а свабоднае месца яшчэ і так было. Не мог не ўбачыць і не пракаментаваць гэтае і сам настаяцель, які ў слове да вернікаў сказаў, што нас сёння нямнога, бо раз'ехаліся мы ў Правадную нядзелю да сваіх родных на могілкі, каб быць разам ва ўваскрэсенскі перыяд. І колькі б яшчэ не было наступных Правадных нядзель, то цяперашняя гісторыя праваслаўных Беластока бярэ свой большасны пачатак у вясковай, беларускай прасторы — ад Буга і Нарвы па Бобру. Менавіта старыя вясковыя могілкі з помнікамі з кірылічнымі надпісамі нагадваюць усім праваслаўным палякам, што з той польскасцю ў гісторыі іхніх сем'яў не ад пачатку і не да канца ўсё з'яўляецца праўдаю. Можа таму зараз усе з такой зацятасцю ставяць помнікі толькі на польскай мове? Зразумела пры маўклівай згодзе і нават пры падтрымцы самога святарства. Каб забыцца і адрачыся ад свайго, а потым плакаць за святочным сталом, як гэта нас не любяць. Гэта не аніякае адрэзванне сімвалічнай пупавіны, гэта адрэзванне па ўласным жаданні сваёй галавы і душы. Тады не адкідайце проста свайго, асабліва сваёй духоўнай першадрукарскай спадчыны і бабулінай ці матчынай мовы. Тады і на гэты свет лягчэй глядзець будзе. А напэўна ўжо трэба будзе менш саромецца перад магіламі блізкіх сабе людзей, якія за тое, што трымаліся сваёй веры і мовы, часта пападалі пад здзек і праслед. Хіба ж не хочам, каб нас усіх правялі ў апошнюю дарогу без нашчадкаў на падляшскай зямлі...

Яўген ВАПА

# Белавежа пад канец светлага тыдня!



У Белавежу найлепш дабірацца на верталёце! Найбольш балючы адрэзак паміж Гайнаўкай і Белавежай. Абапал дарогі як пасля вайны павалены лес. Ссечаныя елкі і вываратні, абы-дзе раскіданыя бязладнай рукой, напаміналі нядбайны тартак. Паваленыя калоды валяліся ў чорна-карычневых калюгах веснавога разводдзя, быццам у пякельнай смале. Яшчэ больш страшна было глядзець на вершаліны дрэў. На згаданым адрэзку цяжка знайсці здаровы фрагмент лесу. Ссохлыя ад караедаў елкі з'яўляліся мёртвым подыхам і замест хістацца на ветры, пагрозліва скрыпелі. Выглядалі, быццам прыцярушаныя попелам.

— To wszystko zrobiła nam Siemionówka, — кажа падвыпіўшы Лукаш.

Лукаш разам з сябрам залезлі ў маршрутку фірмы „Voyager" на прыпынку ля гайнаўскіх могілак. Яго сябра адразу выглядзеў у салоне знаёмую дзеўку і ўсю дарогу яны ўспаміналі аднакласнікаў.

— Pani się nie gniewa, — пачаў Лукаш, — u nas jeszcze świętujemy...

У Белавежу я выправілася ў паслявелікодную суботу. Лукаш добра гаварыў. На адрэзку ад Беластока да Трасцянкі працавалі ў полі — аралі, сеялі ўгнаенні, прыбіралі панадворкі. Аднак за Трасцянкай, быццам за мяжой іншай дзяржавы, ніхто не працаваў і не корпаўся ў зямлі. Быццам трымаліся строга правіла, паводле якога забаранялася сеяць і араць у светлы тыдзень. Інакш град усё паб'е! У гэты час не ляжалі аблогам. Наведвалі продкаў на могілках, насілі валачобнае хросным, гасцявалі ў кумоў і сваякоў. За межамі Трасцянкі ўсё гэта яшчэ жыло. У маршрутку час ад часу залазілі вясёлыя пасажыры. Самая святочная кампанія прысела ў Дубінах. Хлопцы трымалі ў руках недапітае піва і па-сваяцку гутарылі з шафёрам:

— Bierz wujek dychę i reszty nie trzeba...

Паміж глыткамі піва званілі нейкаму Стэфану, каб абвясціць яму пра сваё прыбыццё:

— Szykuj się! Zaraz będziem!

Лукаш са сваім сябрам, наадварот, ужо вярталіся з Гайнаўкі. Прыехалі прагуляцца па горадзе, праветрыцца ад Белавежы. У іх вёсцы нуда і з-за турыстаў усё даражэйшае ў магазінах. Не то што ў Гайнаўцы — адны прамоцыі...

— А пры чым тут Семяноўка? — спытала я.

— Ty zielona jesteś? — абурыўся хлапец.

Пасля расказаў пра Семяноўскае вадасховішча, якое, паводле майго субяседніка, высмактала ўсю ваду з тэрыторыі пушчы. А раней прыйшла засуха і развяліся караеды, таму і зараз пушча *gnije!* Ніхто не ведае, што будзе... І дзе ім падзецца, калі ўжо не будзе лесу? Апошняе паведамленне падвыпіўшы Лукаш выказаў амаль плачам.

Тым часам маршрутка ўжо дакаціла да Белавежы і спынілася пры прыпынку «Палацова». У вочы кінуўся стэнд «Белавежа ў цяні неіснуючага палаца».

* * *

У дарозе з Беластока ў Белавежу, хоць успыхвалі лакальныя звычкі, ніхто не адазваўся па-беларуску. Таму вялікім сюрпрызам была для мяне гутарка дзядзькоў, якія выстойвалі пры сваім ларку з сувенірамі і, не зважаючы на патокі турыстаў, гутарылі сабе па-свойму.

— Я бачу, вы мясцовыя людзі, — пачала я.....

— A o co chodzi? — вокамгненна перайшлі на польскую мову дзядзькі.

Закаранеласць тубыльцаў і іх ментальны сепаратызм прыкмеціла Анна Камінская ў кніжцы «Белавежа шэпатам». Аўтарка знакамітага рэпартажу паспрабавала высветліць з'яву так званай «навалачы». У Белавежы такім слоўцам называюць прыезджых з далёкіх гарадоў і бліжэйшых аколіц. У перакладзе на польскую мову «навалач» абазначае нечаканых прыблудаў. У перакладзе атрымалася лёгка, хоць колка — nawleczeni! Вось і ў першых хвілінах для дзядзькоў ля прылаўка з сувенірамі я падалася з тых „nawleczonych". Хапіла аднак спытаць пра Георгія Валкавыцкага, каб з ходу атрымаць давер і дапамогу. Мужыкі з відавочнай прыемнасцю патлумачылі мне як дайсці на мясцовыя могілкі...

Пасля, калі я ўжо адышла ад іх ларка, у мой бок пачуўся амаль бацькоўскі, ветлівы кліч:

— А можа ровар вазьміце, хутчэй будзе!

Катацца на ровары па Белавежы надта рызыкоўна. Мясцовыя з ходу палічаць вас гэтымі з роду *nawleczeni*. Цудоўнае сонечнае надвор'е прыцягнула ў Белавежу турыстаў. Найбольш сустракаліся сем'і з дзеткамі. Усе яны бралі веласіпеды на пракат і кружылі па белавежскіх вуліцах. У самай вядомай вёсцы Еўропы, таксама як за Трасцянкай, святкавалі. На апусцелай, прыбранай ужо ў браткі вуліцы Стачок толькі зрэдку з'яўляліся тубыльцы. Найбольшы зрух, як і ў суседняй Гайнаўцы, панаваў на могілках.

* * *

— Ці праваслаўныя і каталікі маюць асобныя кварталы? — спытала я ў жанчыны, якая наводзіла апошнія парадкі перад Правадной нядзеляй. Бо прыбіраць, як паясніла мне цётка, трэба да Вялікадня. У светлую сядміцу нельга рабіць! Грэх! А пытанне пра асобныя кварталы, здавалася, спадабалася:

— Нам не патрэбныя асобныя могілкі, — адказала з ветлівай усмешкай. — Каталікі ляжаць побач праваслаўных, а праваслаўныя — побач баптыстаў. Усе разам. Праўда, калісь быў ксёндз, які хацеў раздзяляць могілкі для праваслаўных і каталікоў. А наш бацюшка кажа: «Гасподзь на небе ўсё ведае і бачыць. Яму не трэба тыкаць, хто якой веры і дзе хто пахаваны. Да гэтай пары было добра, і хай так застанецца».

— Вы маеце на ўвазе бацюшку Клаўдзія Пушкарскага?

— Ага! А вы адкуль яго ведаеце? — уцешылася жанчына.

Я расказала пра тое, як мы з сустрачанскімі і белавежскімі дзецьмі размалёўвалі каляровы крыж ля царквы і прысвяцілі яго легендарнаму бацюшку. Асвячаў яго святой памяці епіскап Міран, які сказаў кранальную, прыгожую прамову ў бок беларускай «Нівы». У наступных жанчын я даведалася, у якім кутку могільніка знайсці магілу Герогія Валкавыцкага.

— Ён быў важны чалавек, — гаварылі цёткі, — рабіў беларускую газету.

— А вы чытаеце «Ніву»? — спытала я.

— А дзе яе купіць? — пачула ў адказ.

На прыбранай магілцы першага і шматгадовага рэдактара «Нівы» і заснавальніка літаб'яднання „Белавежа" гарэла лампадка. Сам рэдактар глядзеў з фатаграфіі пранізлівым і ветлівым зрокам. Яго інтэлігентная ўсмешка напамінала пра вечна малады дух паэта. Сапраўды, да канца сваіх дзён, а пражыў ён за 90 гадоў, застаўся бліскучым інтэлектуалам і ахоўнікам творчага духу «Нівы». Як выпускнік літаратурнага інстытута добра разумеў значэнне талентаў у жыцці грамадскасці і газеты. Цікавіў яго кожны дэбют у «Ніве». Калі на старонках з'яўляліся цікавыя творы, у тым ліку рэпартажы, прыязджаў раненька ў пятніцу ў рэдакцыю, каб пагаварыць пра твор і аўтара.

На могілках старэйшыя белавежцы размаўлялі па-беларуску. Іх мілагучныя, меладычныя ўспаміны пра памерлых сваякоў папаўнялі птушыныя спевы. Я таксама выказала сваё пажаданне. Мне марылася, каб у Белавежы дацанілі і ўвышэлілі беларускую літаратурную мову і, як калісь, выглядалі і чыталі «Ніву». Калі мае мроі луналі па белавежскім, экуменічным могільніку, за парканам узняўся на неба чорны верталёт. Мясцовыя не ведалі, адкуль ён прыляцеў:

— Пэўна будзе Мартынюка, — гадалі ў голас цёткі, — з «Пронару», з Нарвы.

У гэты момант я сама перажыла хвіліну гонару за родную Нарву!

* * *

Вяртацца ў Беласток прыйшлося аднак не на верталёце, а на маршрутцы. У дарозе абмінулі мяне дзясяткі турыстаў, у тым ліку закаханыя парачкі.

— Ależ tu czyste powietrze! — гаварыў хлопец дзяўчыне, — Nie to co w Białymstoku, co nie?!

— U nas w dzielnicy to smog jak na Śląsku, — адказала дзеўка.

Абнятая парачка так як і я вярталася той жа маршруткай у Беласток. Яны ў адрозненні ад мяне не згубілі добрага настрою і ўспаміну ад прыгожай Белавежы. Бо замест на паміраючыя елкі і паваленыя дубы і ліпы яны спазіралі ў экраны сваіх смартфонаў.



Фота і тэкст
**Ганны КАНДРАЦЮК**

# Карцінкі з глыбінкі

Яшчэ дзесяць-пятнаццаць гадоў таму было даволі лёгка дабрацца публічным транспартам у амаль любую мясцовасць Беласточчыны. З бурным наступам цывілізацыі цягам апошніх гадоў штораз цяжэй пранікнуць у нашу глыбінку.

Схапіў я байк і рушыў у напрамку Гродзіскай гміны. Спярша ўпэўніўся, што будзе дзьмуць вельмі памяркоўны паўднёва-заходні вецер і не будзе дажджу. Загрузіўся ў поезд у напрамку Чаромхі, злез з поезда ў Падбеллі, кіруюся ў Дубяжына. У пачатку вёскі скульптурны ансамбль прысвечаны бежанству. Крышку далей спажывецкая крама. Крама вельмі сціпленькая, бо такія патрэбы заглядаючых у яе вяскоўцаў. Можна нават выгляд тае крамы асацыяваць са згаданым скульптурным ансамблем, бо пакупніцкая моц вёскі такая, быццам яе жыхары вярнуліся акурат з бежанства. Гэта не дакор, гэта маё прызнанне для ініцыятыўнасці асоб вядучых у Дубяжыне гандлёвую дзейнасць у наш нялёгкі час глабалізацыі, час усялякага прагрэсу, у тым ліку і разбураючага кволейшыя суб'екты грамадскай актыўнасці.

А ў канцы вёскі іншая карцінка — новенькі вывадны крыж у напрамку дубяжынскіх могілак, пастаўлены ў мінулым годзе. А некалькі метраў ад яго старэйшы вывадны крыж, з такой жа эпітафіяй як толькі што згаданы новы. Гэты стары крыж апынуўся ў ходзе камасацыйных працэсаў у межах прыватнага ўчастка. І пакуль не было бўйнага ўсплёску цывілізацыйнага нашага прагрэсу, той крыж нёс сваю развітальную службу адыходзячым у новае вымярэнне жыхарам сяла. Народ наш стаў багацець і ўзводзіць межы сваіх набыткаў. У межах прыватнага ўчастка апынуўся і заслужаны дубяжынскі крыж. І ўласнік участка абгарадзіў той участак, разам з крыжом. І разам з існуючай агароджай таго крыжа. Магчыма, што жыхарам сяла не спадабалася двайная цяпер агароджа крыжа і яны паставілі новы крыж на дзяржаўным грунце. Пакуль што ён не мае ніякай агароджы, але такая прадбачваецца, бо ж сабакі бегаюць там без належнай крыжу павагі...

Мова ішла пра вывадныя крыжы, што на канцы вёскі ў напрамку могілак. Дубяжынскія могілкі побач дарогі, што вядзе ў напрамку Дыдулёў. На канцы Дыдулёў, што з боку Краснага Сяла, таксама своеасаблівыя могілкі. „Красуецца" там драхлеючы комплекс збудаванняў былога калгаса. У 1952 годзе тадышняя беластоцкая штодзёнка намагалася пасеяць аптымізм: „Podstawowa organizacja partyjna w Dydulach, w pow. bielskim, ma poważne osiągnięcia w swej pracy. Do największych zaliczyć można zorganizowanie spółdzielni produkcyjnej, która robi coraz większe postępy. W chwili obecnej liczy ona 28 członków na 34 gospodarstwa znajdujące się we wsi. Wysokie plony, znacznie wyższe od plonów chłopów gospodarujących indywidualnie, pięć nowozbudowanych murowanych domków, wielka obora, maszyny itd. najdobitniej świadczą o rozwoju spółdzielni". У наступным, 1953 годзе: „W Dydulach wróg klasowy próbował rozbić spółdzielnię od wewnątrz, lecz bojowa postawa członków partii przeszkodziła nikczemnym zamiarom. Dzięki temu w gromadzie tej członkami spółdzielni są dziś wszyscy chłopi i stanowią oni coraz bardziej zwarty kolektyw. W rezultacie spółdzielcy w ciągu trzech lat dwukrotnie zwiększyli wydajność z każdego ha w porównaniu z gospodarką chłopską...". Вынік гэтага эканамічнага „цуду" зараз зарастае бур'янам.

Ужо ў канцы 1956 года тая ж штодзёнка паведамляла: „Nie byłoby się czemu dziwić, gdyby w powiecie bielskim ze spółdzielczej rodziny wypadały tylko Szastały, Śnieżki, Oleksin, Mołoczki, Ploski czy tym spółdzielniom podobne. Natomiast zdziwienie ogarnia, gdy na udeptaną przez słabe spółdzielnie ścieżkę wstąpiły filary bielskiej spółdzielczości — Augustowo, Dubno, Dydule, a ku temu samemu skłaniają się nawet Haćki czy Rajsk. [...] W Dydulach wróciło wspomnienie nocy sprzed kilku lat, gdy tuż po założeniu spółdzielni, pożar wybuchł w kilku spółdzielczych zagrodach. [...] Pustoszeją zespołowe obory. Bydło i trzodę sprzedają spółdzielnie okolicznym handlarzom. W zamian kupują konie. W Dubnie, Augustowie, Dydulach trudno uwierzyć, że to rzeczywistość". Цікава, ці нейкі прэзідэнт падумае ўганараваць „выклятых аднаасобнікаў", што змагаліся супраць калектывізацыі...


Падбелле


Дубяжына


У Дыдулях быў калгас


Двор у Далубове

У Красным Сяле гасцей з боку Дыдулёў вітаюць зеўры былога школьнага будынка. Былі калісь хадзілі чуткі, што ў тым будынку мец быць прытулак для састарэлых. Але да такога прытулку дарога ў нас значна даўжэйшая чым на звычайныя могілкі.

Перад закрытай ад гадоў краснасельскай крамай помнік жыхарам Краснага Сяла, замардаваным „героямі" Бурага. Агароджа таго помніка пашкоджана бадай два гады таму і ніякія ўлады не папуліліся выправіць шкоду. Цяпер няма цікавасці да старых помнікаў, калі ўспыхнуў панос на зусім новыя; старое аджываецца.

На краснасельскай вуліцы захавалася некалькі прысядзібных лавачак, у іх ліку адна вельмі арыгінальная — сплеценая з лазы.

У Сольніках, што за Боцькамі, карцінка з падобным сюжэтам, што і ў Дубяжыне. Тут драўляны вывадны крыж пастаўлены на акраіне пашы. У агароджы пашы пазуха вакол крыжа, каб не перавярнулі яго каровы. Уласнік пашы не прыгарадзіў крыжа толькі сабе...

Дабіраюся да Далубова. На ўсходняй акраіне мясцовасці будынак колішняга двара. Мясцовасць была заснавана ў XV стагоддзі і тады быў там узведзены першы двор. З інтэрнэтнай даведкі: „Na przełomie stuleci całe Dołubowo należało już tylko do Markowskich, a w II połowie XIX w. przeszło w posiadanie rodziny Pieńkowskich. Spośród jej członków najlepiej zapisał się w pamięci Kajetan Ludwik, absolwent uniwersytetu w Dorpacie. W 1861 roku uwłaszczył swoich chłopów — jeszcze przed carskim ukazem, a kiedy wybuchło Powstanie Styczniowe, wziął w nim udział w charakterze komisarza powiatu bielskiego. Został, oczywiście, później aresztowany i osadzony w grodzieńskim więzieniu, gdzie przesłuchiwał go sam Murawiew-Wieszatiel i obiecał mu dożywotnie zesłanie. Niepokorny powstaniec musiał jednak cieszyć się u zaborców pewnymi względami, skoro pozwolili mu poznać w więzieniu, a potem widywać 18-letnią Wiktorię Władyczańską, uwięzioną — jak i on — za czyn powstańczy. Rosjanie zgodzili się nawet na ich ślub w więziennej kaplicy i urządzili im podróż poślubną... kibitką na Sybir". Падзеі XX стагоддзя пакінулі свой адбітак у Далубове; у 1912 годзе быў там узведзены новы дворскі будынак, які ў выніку грамадскіх працэсаў мяняў уласнікаў. У ПНРаўскі час была там школа, а зараз там кідаецца ў вочы бяссілле цяперашніх уласнікаў колішняй ландшафтнай жамчужыны.

Побач далубоўскага касцёла расходныя дарогі: адна з іх у напрамку Гродзіска, другая — у напрамку Дзядковіч. Разважаю свае мабільныя магчымасці: перада мною малавата часу для пераадолення запланаванай прасторы, прыходзіцца прастору скараціць, бо і вецер іншы чым быў прагназаваны. Ён з усходу, таму замік на ўсход, у напрамку Кляшчэляў, прыходзіцца павярнуць на поўдзень, у напрамку Сямятыч, у напрамку Грабаркі. Чарговыя мясцовасці Дзядковічы, Гарнова; у апошняй дарожны паказальнік паведамляе, што ў Сямятычы 16 кіламетраў, столькі ж больш-менш і да чыгуначнага прыпынку ў Сычах, а ў мяне амаль тры гадзіны запасу да ад'езду цягніка ў напрамку Чаромхі. Няма спеху, яшчэ нават успею завітаць пад паломніцкую Гару Грабарку.

І яшчэ адна цікавінка: гмінны партал Дзядковіч падае прагноз надвор'я не толькі для Дзядковіч, але і для Бруселя. Мабыць у Бруселі пражывае больш жыхароў Дзядковіцкай гміны, чым у самой гміне; кудысь трэба дзецца — рыба шукае дзе глыбей...

Вікіпедыя пра Грабарку: „Паводле традыцыі, у гэтым месцы ў 1710 схаваліся жыхары навакольяў падчас эпідэміі халеры ці чумы. Яны выкарыстоўвалі ваду з мясцовай крыніцы, якая адрознівалася вельмі чыстай вадою. Людзі зберагліся ад хваробы, а гэта месца стала шанавацца з тых часоў як цудадзейнае. На пагорку была пастаўлена драўляная ўніяцкая царква, якая стала філіяй уніяцкай парафіі ў Сямятычах. Пасля ліквідацыі ўніяцтва яе змяніла драўляная праваслаўная царква, перанесеная ў 1898 з Мельніка. Святая гара стала месцам пілігрымак на свята Спаса, або Перамянення Гасподняга (з 18 на 19 жніўня), у час якіх пілігрымы дастаўляюць драўляныя пакутныя крыжы і ўсталёўваюць іх на схіле гары. Мураваная царква Перамянення Гасподняга паўстала на месцы папярэдняй, драўлянай, якая была падпалена і згарэла ўначы на 13.7.1990. Яе мураваную копію абшалявалі дрэвам. Навокал яе тысячы пакутных крыжоў, у асноўным драўляных. На ўсход ад царквы знаходзяцца праваслаўныя могілкі. У 1947 з'явіўся тут жаночы праваслаўны кляштар св. Марты і Марыі, пры ім знаходзяцца капліца, плябанія і дом пілігрыма. Ля падножжа гары б'е крынічка, што шануецца як цудадзейная, накрытая каплічкай, якая абапіраецца на 6 слупоў і ўвенчаная цыбулепадобным купалам".

Рамантуюцца чыгуначныя пуці між Сямятычамі і Нурцом. Іх рамантавалі каля сарака гадоў таму, яны ўжо байкавата зношаныя, вагоны байкавата калоцяцца па рэйках. Ад Чаромхі, па новых пуцях, поезд плыве быццам у сне...

У Гродзіскую гміну не ўдалося на гэты раз дастацца, але спадзяюся, што яшчэ дастануся туды сваім уласным высілкам, па абочыне цяперашніх трэндаў.

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Няма сэнсу толькі ў бяздзейнасці

**Змагалася за правы беларусаў, але вярнуцца на радзіму пакуль што не можа. Старшыня абласной арганізацыі Беларускага нацыянальнага кангрэса ў Берасці Наталля Папкова, якая актыўна прымала ўдзел у мінулагодніх маршах недармаедаў, зараз не можа вярнуцца ў Беларусь па палітычных прычынах. Хаця за 2017 год яе неаднаразова затрымлівалі сілавікі, актывістка была прымусова змешчана ўладамі ў псіхіятрычную бальніцу. Наталля верыць, што маршамі недармаедаў беларусы даказалі сваю салідарнасць і сілу.**

**«Ніва»: — Дэкрэт аб дармаедах абурыў тысячы беларусаў, аднак здаецца, што Вас неяк асабліва?**

**Наталля Папкова: —** Мне прыйшоў ліст аб тым, што я дармаедка, хаця дармаедкай не была. Увогуле мне не спадабалася, што такія дэкрэты ў XXI стагоддзі, у цэнтры Еўропы, з'яўляюцца. І я вырашыла, што гэта апошняя кропля, што Лукашэнка можа зрабіць у Беларусі. Ён даводзіць краіну да краху і знішчэння народа.

**— Вашы сябры таксама моцна абураліся на дэкрэт аб дармаедах? Таксама ўключаліся ў акцыі супраць яго?**

— Не. Большасць не. Не падтрымлівалі ўвогуле. Казалі: навошта табе гэта трэба. Займаешся бізнесам, займайся.

**— А якім бізнесам Вы займаліся ў Берасці?**

— У мяне было клінінгавае агенцтва. Неафіцыйна працавала ў мяне чатыры асобы. Мне сябры гаварылі: працуй і ўсё будзе добра, але я вырашыла, што далей вытрымаць ужо немагчыма.

**— А Вы спадзяваліся, што такія наступствы пацягне за сабою Ваша дзейнасць?**

— Ну, калі я прыехала на першы мітынг, я думала, што ў мяне ёсць бізнес, ніхто з ім нічога не зробіць, мяне не звольняць з работы і ўсё будзе добра. Але, на жаль, пачалі паступаць званкі кліентам, яны пачалі адмаўляцца ад маіх паслуг. У выніку: быў бізнес, няма бізнесу.

**— Гэта быў першы крок улад, каб Вас неяк знеахвоціць да далейшай дзейнасці?**

— Не. Гэта быў ужо напэўна трэці або чацвёрты. Першы крок — гэта псіхіятрычная лякарня.

**— Псіхіятрычная лякарня для здаровай асобы. Гэта практыкавалася перш за ўсё за савецкім часам.**

— І зараз так (*смех*). Цяжка сябе я там адчувала. Упала адразу ў стрэс, але віду не падавала, таму што зараз знайшлі б што-небудзь. Ну, яшчэ вельмі цяжка было і з-за таго, што нікога не дапускалі. Я пісала заявы, пісала просьбы, каб дапусцілі да мяне адвакатаў ды сяброў. Ну, не дапускалі. Тыя заявы напэўна ішлі ў сметніцу пасля таго, як я іх аддавала. Ну, дзякуй Богу, сястру дапусцілі і некалькі сяброў. Мяне даставілі туды ў пятніцу пасля 17 гадзіны вечара, працоўны дзень дактароў быў скончаны. Два дні выходныя, таксама дыягназу паставіць не маглі. У панядзелак, перад гэтым як яны мяне выпусцілі, правялі даследаванне. Напісалі, што я цалкам здаровая і выпусцілі.

**— Калі Вы выйшлі з псіхушкі, не было такой думкі, што можа не варта так ангажавацца?**

— Ніколі не паддаюся.

**— Бацькі, сям'я напэўна перажывалі за Вас?**

— Яны былі супраць маёй актыўнай дзейнасці, але матуля, калі даведалася, што я ў псіхіятрычнай лякарні, хацела з'ехаць з Расіі і прыехаць у Берасце. Мая сястра супакойвала маці. Мяне таксама сястра падтрымлівала. Калі мяне забіралі ў псіхіятрычную лякарню, яна была гэтага сведкай. Удалося ёй пазваніць сяброўцы, якая змагла распаўсюдзіць гэтую інфармацыю ў СМІ. Хутчэй за ўсё з-за гэтага мяне не лячылі. Пазней, калі сястра ўбачыла, што мяне пільнуюць, яна спачатку не паверыла. Аднак мы праверылі. Яна апранулася ў маю вопратку, выйшла на вуліцу і яе амаль не схапілі. На шчасце ззаду ішоў яе муж. Яны ўбачылі, што гэта не я і далі ёй спакой.



Больш за ўсё гэтая сітуацыя адгукнулася на маіх пляменніках. Калі я кудысьці знікала, яны заўсёды цікавіліся дзе я. Былі такія выпадкі, што калі я з пляменнікам ішла па горадзе і ён убачыў міліцыянтаў, упадаў у паніку.

**— Небяспечна Вам было хадзіць па родным горадзе. Як у такіх умовах жыць?**

— Калі ўвесь час нехта сочыць... дакладна небяспечна сябе адчуваеш. Усё-такі я адчувала яшчэ велізарную падтрымку з боку грамадства. Калі ідзеш па горадзе, асабліва калі першыя разы мяне затрымалі, незнаёмыя людзі мяне пазнавалі. На горадзе чужыя людзі пыталіся: «Наталля Іванаўна, як Вы там?». Людзі нават плакалі ў мяне на грудзі з-за таго, што перажывалі за мяне. Гэта дапамагае.

**— Але яны самі не былі гатовыя, каб аж так заангажавацца, прысвяціць свой бізнес...**

— На жаль так. Многія баяцца. Гэта небяспечнае не толькі для чалавека, які папаў пад рэпрэсіі, але і для сям'і. Мая першая акцыя, калі я пабачыла, што на сам рэч творыцца ў краіне, гэта маўклівыя акцыі. Я тады ўбачыла, як людзей проста збіваюць. Я падумаць не магла, што я змагу так радыкальна выказваць сваю думку.

**— За выказванне сваіх думак Вы таксама трапілі ў турму.**

— Так, тры разы трымалі ў турме. Былі падазрэнні наконт таго, што я была супраць канцэрта Віктара Каліны ў Берасці. Таксама перад канцэртам мяне злавілі, патрымалі да канца канцэрта і тады мяне выпусцілі.

**— Столькі разоў пераносіць турму жанчыне гэта напэўна нялёгкі досвед?**

— Першы дзень. Пазней ужо крыху лягчэй. Хаця цяжкім было тое, што ў берасцейскіх турмах пацукі водзяцца. З дзяцінства я вельмі моцна іх баюся. Нават ужо на волі мне па начах гэтае ўсё снілася. Пахадзіла да псіхолага, нармальнага псіхолага, не дзяржаўнага, зараз крышку лепш.

**— Гэта Вас схіліла з'ехаць у Варшаву?**

— Я вырашыла з'ехаць у Варшаву, калі я цалкам зразумела, што бізнес я ўжо не рэанімую і нічога з ім не атрымаецца. Падзыкі, даўгі... Гэтага накапілася і я вырашыла з'ехаць, каб проста зарабіць.

**— Так што эканамічная сітуацыя перш за ўсё прымусіла Вас з'ехаць з Берасця?**

— Так, перш за ўсё гэта. Аднак, яшчэ да таго як я з'ехала, мяне пачалі выклікаць у міліцыю па справе з наркотыкамі. Зараз таксама сястра да мяне піша, што прыходзяць позвы. Нібыта нейкі чалавек сядзіць у турме ўжо тры гады і вось успомніў, што ён мяне ведае (*смех*). І ён лічыць, што магу ўнесці нейкія змены ў яго справу. Таго чалавека я не ведала, не ведаю і нават не хачу ведаць. Хочуць мяне проста ўмяшаць.

**— Калі зараз з перспектывы Варшавы глядзіце на мінулагоднія пратэсты, сваю актыўнасць і яе наступствы, не адчуваеце нейкага расчаравання?**

— Мы прынамсі часткова свайго дамагліся. Хаця б замарозка дэкрэту. Быў сэнс гэта рабіць. У грамадстве нават баявы дух падняўся. Я нават у Польшчы сустракаюся з беларусамі, якія таксама супраць дэкрэта аб дармаедах. Але яны нічога не хочуць рабіць, яны мяне распазнаюць і пытаюць пра сэнс маёй актыўнасці. Сэнс ёсць заўсёды. Няма сэнсу толькі ў бяздзейнасці. Спадзяюся, што на восень, калі прыйдзе той дэкрэт, зноў баявы дух у беларусаў узнімецца.

**— Вы самі не стаміліся?**

— Стамілася. Яшчэ ў мінулым годзе была маральна знішчана. Ездзіла за мяжу, каб у спіну ніхто не дыхаў. Проста, каб маральна расслабіцца. Час у напружанасці дае аб сабе знаць. На жаль, справа з бізнесам мяне перш за ўсё згубіла.

**— А Варшава не дае перспектыў на новае жыццё?**

— Варшава цудоўная, але ў Берасці лепш. Калі б у Берасці, на Беларусі быў такі стан як у Польшчы, усё было б у шмат разоў прасцей.

**— Думаеце наогул вярнуцца на Беларусь?**

— Мару.

**— Пакуль што няма такой магчымасці?**

— Такой магчымасці няма. Зараз мне канчаецца польская віза. З другога боку, калі я вярнуся, чакае мяне восем гадоў турмы. І я сумняваюся, што гэтых восем гадоў нешта памяняе ў жыцці краіны. Палітычныя закладнікі ў Беларусі існуюць на працягу 24 гадоў. І сэнсу ніякага...

Гутарыла **Уршуля ШУБЗДА**

## Прыгожая Альхоўка пусцее

У апошнюю сусветную вайну вёска Альхоўка Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета была спалена акупантам. Пасля вайны альхоўцы ўзяліся будаваць дамы, хлявы і стадолы перш-наперш з дрэва. Лес тут, як кажуць, пад бокам. Столяры былі свае або з суседніх вёсак. Зараз у Альхоўцы драўляныя і мураваныя дамы, са значнай перавагай драўляных. Сярод іх шматлікія прыгожыя, задбаныя і памаляваныя, з ганачкамі. На вуглах некаторых драўляных хат дэкаратыўныя ліштвы, а паабапал акон — аканіцы. Такія хаты мне падабаюцца, яны свойскія, прывабныя і прыязныя. Альхоўка ціхая, прыгожая вёска-вуліцоўка, распаложаная пасярод палёў і лугоў. Раней сяло было шматлюднае. Цяпер у ім 83 дамы і 98 жыхароў. У вёсцы ёсць прасторная святліца, прадуктовая крама ГС і пажарнае дэпо.

Прыгожыя драўляныя хаты маюць, між іншым, Аліна Скепка з мужам ды яе маці Валянціна Галабурда (яна прыгожа і мілагучна спявае), Юрый Раманчук, Сяргей Галабурда, Юрый Лукша, Пётр Скепка, Мікалай Варанецкі (ён адрамантаваў бацькоўскі дом) ды Ліля і Ірэна Зданоўскія (цяпер іх хата пустая). Нядаўна пацярпела ад агню з камінка прыгожая драўляная хата Тадэвуша Кшыжанскага і зараз яна патрабуе рамонту.

У адной хаце з прыгожым ганачкам на працягу дзесяці гадоў была свайго часу чатырохкласная школа. Працаваў у ёй настаўнікам святой памяці Мікалай Сабешук, пазнейшы шматгадовы павятовы інспектар асветы ў Гайнаўцы. У гэтай школцы вучыўся, між іншым, наш сённяшні ніўскі карэспандэнт Мікалай Варанецкі. Ён успамінае, што меў блізка да школы і быў з гэтага вельмі задаволены — усяго цераз пару хат ад яго дому. Ёсць дзве старэнькія драўляныя хаты. У адной з іх (ля скрыжавання дарог у Новае Масева, Нараўку і ў Семяноўку ды на пачатку вёскі) жыў наш былы ніўскі карэспандэнт святой памяці Юрка Скепка. Ягоная родная хата зараз гэта разваліна. У суседняй вёсцы — у Прэнтах — жыве яго брат Мікалай. Ён згодны, што хату трэба разабраць і дазваляе, але трэба мець на гэта згоду яшчэ іншых наследнікаў.

— Вёска вымірае і вымірае. У мінулым годзе памерлі тры чалавекі. Каля трыццаці дамоў ужо пустых, — сказаў мне ўраджэнец Альхоўкі і цяперашні яе пастаянны жыхар Мікалай Варанецкі. — Некаторыя альхоўцы выехалі найбліжэй, бо ў Нараўку (да яе адсюль усяго 5 км), а то ў Гайнаўку і ў Беласток ды ў іншыя гарады на Сілезіі і на Памор'і.

## Трэба рамантаваць

Пасля зімы ўтварыліся ўхабіны на асфальтавай маставой павятовай дарогі ў вёсцы Лесна, на двухкіламетровым яе адрэзку з Леснай у Міклашэва і такой самай даўжыні кавалку дарогі з Міклашэва ў Нараўку. Сюдою ехаў я на ровары 9 красавіка гэтага года і ўвесь час пільна сачыў, каб не папасці ў ямку і не вывернуцца. Каб на ёй бяспечна ехаць, пра гэта павінна паклапаціцца Праўленне павятовых дарог (ППД) у Гайнаўцы.

Варта дадаць, што ППД паспяхова справілася з высечкай кустоў у равах паабапал дарог, якія вядуць у Семяноўку з Нараўкі і з вёскі Плянта. І цяпер гэтыя дарогі быццам шырэйшымі сталі. Зараз віднеі на іх днём і ноччу. **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі

# Жыве сёмы «Ц» клас!



— Хто скажа, што значыць слова «ніва»? — спытаў настаўнік Андрэй Мароз.

— Ніва — гэта поле, дзе выспявае збожжа, — адказалі ў сёмым «ц» класе.

У сонечны, паслявелікодны чацвер мы наведалі бельскую «тройку», каб пагаварыць пра нашу газету. Згодна з актуальнай праграмай навучання ў школе адбываюцца ўрокі гісторыі бліжэйшага наваколля. Вучні знаёмяцца з беларускімі рэдакцыямі, такімі як «Ніва», Радыё Рацыя, Белсат. Вывучаюць таксама біяграфіі славутых землякоў. Уразіў нас геаграфічны абсяг зацікаўленняў.

— У сферы зацікаўлення не толькі ўраджэнцы Бельска, — адзначае спадар Андрэй. — Мы будзем вывучаць біяграфіі Касцюшкі і Панятоўскага, родам з беларускага Палесся. Такое пашырэнне спрыяе зразуменню свайго месца на зямлі.

Сямікласнікі ведалі ўсё пра «Ніву». Яны назвалі ўсіх рэдактараў, якія кіравалі газетай на працягу 62 гадоў яе існавання. Ведалі рубрыкі і ніўскіх аўтараў, назвалі таксама дакладны адрас рэдакцыі. Самай паінфармаванай асобай у класе аказаўся Кшысек Вайшковіч. Ён расказаў нават пра Людвіка Заменгофа, які стварыў першую ўніверсальную мову эсперанта, з дапамогай якой камунікавалі б людзі на цэлым свеце. Рэдакцыя «Нівы» знаходзіцца якраз на вуліцы названай яго іменем. Назваў таксама гімн вольных беларусаў — «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», аўтарства Макара Краўцова.



— Кшысек выдатны інфарматык, — адзначае настаўнік. — Ён на ляту ўмее знайсці кожную інфармацыю. І карыстаецца беларускімі сайтамі. Калі трэба нешта на ўрок, ён знаходзіць патрэбную інфармацыю, карты, цікавіны...

Беларускія справы захапляюць таксама Ігара Зіноўчыка.

— Я многа размаўляю са сваім татам, — кажа Ігар. — Ён для мяне ўзор беларуса.

Для нашых сяброў з сёмага «ц» класа вельмі спадабалася святкаванне 100-годдзя БНР. Да свята рыхтаваліся з дапамогай «Нівы» і іншых медыяў. Разам з падзеяй, у памяці замацавалася беларуская сімволіка — герб Пагоня і бел-чырвона-белы сцяг. Падобная доза пазітыўных эмоцый датычыла «Зоркі». У класе ўсе сто адсоткаў (!) вучняў падпісваюцца на «Ніву».

— Яны шчыра любяць беларускую мову, — кажа Андрэй Мароз. — Працаваць з такой моладдзю чыстая прыемнасць. Зацікаўленні і любоў ідуць разам у пары з навуковымі поспехамі.



Вікторыя Раеўская і Нэля Паўлючук дайшлі да ваяводскага этапу прадметнага конкурсу па беларускай мове. Жадаем ім далейшых поспехаў! А ўсім сямікласнікам і настаўніку Андрэю Марозу дзякуем за натхняльную сустрэчу і прыгожыя кветкі. Жыве сёмы «ц» клас!

**Фота і тэкст**
**Ганны Кандрацюк**

## УВАГА КОНКУРС! № 16-18

## Загадкі з роднай хаткі

**Водар — чысты і празрысты,**
**Ясны і вясёлы дзень.**
**Спевы птушак галасістых**
**Носіць вецер. Бэз цвіце.**
**А за ёй і лета йдзе.**
**В....**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 29 красавіка 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 12-2018: бусел.**
**Узнагароды: Даведнік і карта з веласіпеднымі маршрутамі па Белавежскай пушчы выйграла Караліна Кандрат з Нараўкі; кніжку Свена Нурдквіста „Пэтсан сумуе" — Марыюш Красько з Аршкава, кніжку Надзеі Ясмінскай „Сем ружаў" — Аня Радзівончык з Нараўкі. Віншуем!**

Авяр'ян Дзеружынскі

## Веснавая раніца

Ціха абуджаюцца
Росныя палі,
Веснавая раніца
Крочыць па зямлі...
Промнямі агністымі
Саграе зямлю,
Зерні залацістыя
Кідае ў раллю.
А як напрацуецца,
На спачын ідзе,
Нівамі красуецца
Цэлы весні дзень.

# Як не верыць у шаптух?



Я веру ў чары, напрыклад..., — прагаварыўся Давід.

— Ну, цікава?

— Напрыклад памятаю, як зрабілі мы з бацькам Пэрапэліцу. Раней тата спытаў: «Як так зрабіць, каб з пагодай паспець пажаць?». А як кажу: «Паспеем, калі зробім Пэрэпэліцу».

І так было! Мы ўсё пажалі, здалі збожжа і былі вельмі задаволены.

Гімназіст Давід Тыханюк з Гайнаўкі — майстар на ўсе рукі. Ён ведае, як з дапамогай народных павер'яў абрабляць зямлю, каб выспеў багаты плён. Ведае таксама, як падбіць сэрцы публікі і журы на тэатральным аглядзе. У пастаноўцы «Як не верыць у шаптух?» ён іграў тры ролі: Бацьку, Нарачонага Колю і Суседку Гандзю. За гэта атрымаў узнагароду для найлепшага акцёра. Пытаем, як адчуваў сябе ў ролі вясковай пляткаркі Суседкі Гандзі.

— Я паглядзеў, як выступаюць дзяўчаты, — смяецца гімназіст.

Фальклорную ролю развучыў у апошняй хвіліне, каб ратаваць спектакль.



— Адна наша сяброўка паехала сёння на спаборніцтвы, — пасняе Давід, — таму я рашыў заступіць яе. Інакш, не атрымалася б наша пастаноўка.

Давід Тыханюк прыехаў разам з сябрамі і спадарыняй Верай Масайлай з Гайнаўкі. На тэатральным аглядзе яны паказалі сцэнку з мінулага. Быў 1946 год. На Беласточчыне ідзе агітацыя, каб выязджаць на пасяяннае жыхарства ў СССР. Да ідэі найбольш загараецца моладзь. Галоўная гераіня, Алёна, як ніхто хоча з'ехаць з Бацькаўшчыны. Яна закаханая ў хлапца з Савецкай Беларусі. Бацькі аднак не адабраюць яе энтузіязму. Спачатку прамаўляюць да розуму, а калі гэта не дапамагае, прымяняюць чары. На сцэне яны акрапляюць дачушку чарадзейнай вадой, перацягваюць праз хамут і драбіну...

У рэшце рэшт з-за недахопу дакументаў Алёну не пускаюць у СССР. Яна вяртаецца да бацькоў і да каханага, з якім сустракалася раней.

— Напісаць такі сцэнарый заставілі ўспаміны, — кажа Вера Масайла. — Такая гісторыя сапраўды адбылася.

— Гэтую дзеўку, каб адчараваць, — пытаем у рэжысёркі, — сапраўды перацягвалі праз драбіну і хамут?

— Гэтага не скажу, — кажа спадарыня Вера. — Напэўна яны ездзілі па цэрквах і маліліся, магчыма, наведвалі і шаптух, каб яны замовілі... А з хамутом і драбінай у мяне хатні ўспамін. Як я была малая, то хамут не выходзіў з нашай хаты. Бо хапіла, каб нехта чужы на мяне зірнуў і я плакала ад пераляку. Бацька перацягваў праз хамут і я адразу супакойвалася. Калісь людзі так жылі і верылі ў штосьці такое...

— А вы, дзяўчаты, верыце ў чары? — пытаю ў Юлі Корх і Юлі Мацюкі?

— Крыху так і крыху не, — смяюцца дзяўчаты.

Чароўны настрой пастаноўкі «Як не верыць у шаптух?» папоўнілі гарманіст Тамаш Дружба і самавітыя касцюмы акцёраў. Найбольш уражвалі Дарожныя Дзяды ў расшлёпаных лапцях і саматканых апранах з ільну. Яны заставлялі думаць пра міфічных персанажаў.

Іх таксама дабыла са сваёй памяці аўтарка сцэнарыя.

— У часы майго дзяцінства дзяды прыходзілі амаль кожны дзень. Бацькі іх кармілі і запрашалі начаваць у хаце. Верылі, што іхнія малітвы дапамагаюць!

Вось колькі каларыту і гістарычных звестак у адной пастаноўцы! Брава Гайнаўка і вечна маладая пані Вера!

**Зорка,**
**фота Ганны Кандрацюк**

Юлія МОНАХ
Новая Воля, КШ у Міхалове

## Чую

Прыгожыя кветкі цвітуць,
Сонца дае святло,
Чую...
Чую шоргат вады,
Чую...
Чую канцэрт,
Птушыны канцэрт...

# Польска-беларуская крыжаванка № 16-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 12-2018:**

Улада, шум, вус, гіт, маг, Галя, Пагоня, лоб, белы, парк, Ян, гарбатка. Уваход, луг, Ас, хабар, ах, герб, іголка, штаны, ля, Як, мая, Іна.

Узнагароды — аўтаручкі — выйгралі **Іаанна Ніціцюк** з бельскай «тройкі», **Аляксандра Куптэль, Віялета Смалюк, Пётр Вілюк** з Арэшкава, **Лена Хадакоўская, Дамініка Жук, Павел Жданук** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластока, **Аляксандра Аніськевіч, Юстына Астапковіч, Анна Кендысь** з Гайнаўкі. Віншуем!

Ania
Obcas
Zawiniątka
Nos
Jan
Bór
Strąk
Krok
Ar
Przypadek
Ach
Książę
Niebo
Królik
Trzy
Jan
Oka
Tron
As
Język
Ręka
Anu
Piękno



# Творы **Уладзіміра Караткевіча і Сакрата Яновіча** на Алімпіядзе беларускай мовы



■ Члены Галоўнага камітэта Алімпіяды беларускай мовы на чале са старшынёй прафесарам Міколам Хаўстовічам наглядалі за пісьмовай часткай алімпіяды і ацэньвалі вусныя адказы вучняў (874)

**Адзінаццаць вучняў Гайнаўскага і Бельскага белліцэяў удзельнічала ў цэнтральных спаборніцтвах XXIV Алімпіяды беларускай мовы, якія 22 сакавіка адбыліся ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім. Пісалі яны сачыненні па творах двух выдатных беларускіх пісьменнікаў — Уладзіміра Караткевіча і Сакрата Яновіча. У тэсце выкарысталі свае ўмеласці па беларускай мове, выконвалі пераклад тэксту з польскай на беларускую мову і пазней адказвалі вусна па беларускай літаратуры, культуры, па традыцыях, жыцці і дзейнасці беларусаў Беласточчыны. Пасля праверкі пісьмовых прац і падвядзення вынікаў Галоўны камітэт Алімпіяды беларускай мовы ў Польшчы, які дзейнічае пры Кафедры беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта і арганізуе алімпіяду, абвясціў яе вынікі. Вучаніца першага класа Гайнаўскага белліцэя Агнешка Саўчук і вучань першага класа Бельскага белліцэя Максім Фіёнік сталі лаўрэатамі XXIV Алімпіяды беларускай мовы, набраўшы па 167 балаў, а астатнія ўдзельнікі цэнтральных спаборніцтваў — фіналістамі.**

Стаўка была вялікая, бо поспех на Алімпіядзе беларускай мовы — гэта не толькі поспех самога ліцэіста, але і поспех канкрэтнага белліцэя, у якім ён вучыцца. Дзякуючы лаўрэатам і фіналістам прадметных алімпіяд нашы белліцэі займаюць прэстыжныя месцы ў рэйтынгах і прыцягваюць здольных вучняў у свае школы. Званне лаўрэата адкрывае выпускніку белліцэя ўступ на многія прэстыжныя факультэты Варшаўскага ўніверсітэта і іншых вышэйшых навучальных устаноў у Польшчы.

— Вялікім козырам Алімпіяды беларускай мовы з'яўляецца магчымасць зацікавіць ліцэістаў беларускай літаратурай, пашырыць іх веды па беларускай культуры, мове і нашых традыцыях, — сказаў дырэктар Гайнаўскага белліцэя Ігар Лукашук.

— Алімпіяда беларускай мовы — адзіная прадметная алімпіяда, якая тычыцца мовы нацыянальнай меншасці ў Польшчы, канешне па-за нямецкай агульнаеўрапейскай мовай. Вельмі важная вучням перамога ў алімпіядзе, бо гэта не толькі прэстыж, але канкрэтныя прывілеі, — адзначыў дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк.

— Лаўрэаты, а ў некаторых выпадках нават фіналісты Алімпіяды па беларускай мове могуць паступаць без конкурсу на паасобныя гуманітарныя спецыяльнасці на Варшаўскім і Вармінска-Мазурскім універсітэтах, а таксама на некаторыя спецыяльнасці на Каталіцкім Люблінскім універсітэце. Надалей ёсць спецыяльнасці ў Політэхнічным інстытуце ў Жэшаве, на якія пераможцы Алімпіяды беларускай мовы могуць паступаць па-за конкурсам. Універсітэт у Беластоку прымаў без конкурсу нашых лаўрэатаў і фіналістаў на беларускую філалогію, на якую зараз няма набору. Пасля пашырыў ён гэтыя магчымасці на іншыя спецыяльнасці, але я цяпер не спраўджваў, ці гэтыя прапановы актуальныя. Штогод прапановы для лаўрэатаў і фіналістаў нашай алімпіяды могуць мяняцца і нашы вучні павінны спраўджваць, у якіх навучальных установах і на якія спецыяльнасці могуць яны паступаць без конкурсу, — удакладніў настаўнік беларускай мовы Гайнаўскага белліцэя Янка Карчэўскі. — Ліцэісты ўжо рады, калі стануць фіналістамі нашай алімпіяды, бо тады перш за ўсё вызваляюцца ад матуральнага экзамену па беларускай мове і атрымліваюць максімальную колькасць балаў магчымых для здабыцця падчас экзамену. У нашай школе пераможцы алімпіяды, калі хочуць, то ідуць індывідуальным токам навучання па беларускай мове. Тады яны не прымаюць удзелу ў занятках беларускай мовы, а прыступаюць да кваліфікацыйнага экзамену па беларускай мове ў паасобных класах.

Старшыня Галоўнага камітэта Алімпіяды беларускай мовы ў Польшчы прафесар Мікола Хаўстовіч сказаў, што камітэт стараецца захаваць прэстыжнасць Алімпіяды па беларускай мове і заахвочвае ліцэістаў больш масава прымаць удзел у алімпіядзе.

— Вядучай тэмай сёлетняй алімпіяды мы запрапанавалі творчасць двух пісьменнікаў — Уладзіміра Караткевіча, з ухілам на выдатны яго твор «Дзікае паляванне караля Стаха» і Сакрата Яновіча, — заявіў прафесар Мікола Хаўстовіч, які адкрыў цэнтральныя спаборніцтвы алімпіяды ў Бельску-Падляшскім, наглядаў за іх пісьмовай часткай і старшынстваў камісіі, якая прымала вусныя адказы вучняў.

Рыхтуючыся да алімпіяды белліцэісты паўтаралі і пашыралі свае веды наконт жыцця і творчасці Уладзіміра Караткевіча і Сакрата Яновіча. Удзельнікам цэнтральнага этапу алімпіяды трэба было напісаць сачыненне на адну з трох тэм: 1) Сацыяльная тэматыка аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха» Уладзіміра Караткевіча; 2) Нацыянальна-адраджэнскі пафас аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха» Уладзіміра Караткевіча; 3) «Доўгая смерць Крынак» Сакрата Яновіча як эпітафія на магіле беларускасці?

— Мяне зацікавіла аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха» Уладзіміра Караткевіча. Ён у аповесці вяртаецца ў нашае прошлае і паказвае, што мінулае беларусаў было славутае і багатае. Я пісаў сачыненне пра нацыянальна-адраджэнскі пафас аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха», паколькі ведаў, як разгарнуць тэму, — сказаў бельскі белліцэіст Максім Фіёнік яшчэ перад вуснай часткай алімпіяды.

Юсцінія Якобюк і Уршуля Паўлючук з Бельскага белліцэя заявілі, што, рыхтуючыся да цэнтральнага этапу, аналізавалі аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха» Уладзіміра Караткевіча і творчасць Сакрата Яновіча, але таксама многа часу адвялі падрыхтоўцы да граматычнага тэсту.

— У час пісьмовай часткі алімпіяды трэба было актыўна працаваць, каб паспець напісаць, а пасля праверыць сачыненне, напісаць тэст па граматыцы і зрабіць пераклад фрагменту тэксту з польскай мовы на беларускую, — сказалі гайнаўскія белліцэісткі.

Амаль усе ўдзельнікі алімпіяды праўвялі свае работы да канца часу прызначанага на пісьмовую работу. Вучаніцы Гайнаўскага белліцэя паінфармавалі, што пісалі сачыненні на трэцюю тэму — пра «Доўгую смерць Крынак» Сакрата Яновіча. Вікторыя Барэчка, Юлія Бяганская і Юлія Іванюк сказалі, што падобныя дэмаграфічныя працэсы, як у Крынках, можна заўважыць у вёсках Гайнаўскага і Бельскага паветаў, якія ў паскораным тэмпе становяцца бязлюднымі.

— Я пісала на тэму «Доўгай смерці Крынак», паколькі творчасць Сакрата Яновіча мне падабаецца. Сакрат Яновіч перадае ў сваіх творах глыбокія высновы, але мова ў іх няпростая і, каб зразумець думкі Яновіча, трэба ўчытвацца ў яго творы, — сказала Агнешка Саўчук з Гайнаўскага белліцэя.

Максім Фіёнік і Лукаш Філіманюк з Бельскага белліцэя заявілі, што апасаюцца памылак у тэстах па граматыцы. У граматычным тэсце трэба было выканаць практыкаванне на дзеясловах, замяніць лічбы ў сказах словамі, перакласці сказ з польскай мовы на беларускую і палічыць колькасць «ў» у перакладзе. Вучні тлумачылі значэнне фразеалагізмаў, спалучалі дзеясловы з назоўнікамі згодна з лексічнай нормай. З выдзеленых слоў у вершы белліцэісты выбіралі прыметнікі і пісалі, ад якога слова яны былі ўтвораны, і назоўнікі, а пасля ад іх утваралі прыметнікі. Апошнім практыкаваннем быў пераклад на беларускую мову фрагментаў тэксту «Moja mała ojczyzna» Сакрата Яновіча.

— Вучням, якія лепш ведаюць беларускую мову, лягчэй справіцца з перакладам на беларускую мову і граматычным тэстам, — заявіла настаўніца беларускай мовы ў Бельскім белліцэі Анна Бжазоўская.

— Рыхтуючыся да вуснага адказу, які адбываецца па выбраным намі пытанні з трох пытанняў прапанаваных на выцягнутым падчас жараб'ёўкі білеце, мы перш за ўсё аналізавалі многа тэм па беларускай літаратуры розных перыядаў, па беларускай культуры і традыцыях нашага рэгіёна, а таксама па жыцці беларусаў Беласточчыны. Успаміналі мы арганізаваныя ў нас беларускія мерапрыемствы і дзейнасць беларускіх арганізацый. Падчас жараб'ёўкі можна будзе таксама выцягнуць, між іншым, пытанне аб беларускіх сродках масавай інфармацыі, а ў гэтым ліку пра «Ніву», змест якой мы аналізуем на ўроках беларускай мовы, — сказалі бельскія белліцэісткі Юсцінія Якобюк, Уршуля Паўлючук і Інэса Гапанюк.

— Падчас вусных адказаў многа залежыць таксама ад шчасця, бо да адказу па некаторых пытаннях мы лепш падрыхтаваны, а па некаторых менш патрапім расказаць. Можа здарыцца, што выцягнем білет з такімі пытаннямі, што складана будзе разгарнуць свой аповед. Аднак важна не толькі запрэзентаваць свае веды, але таксама зацікавіць сваім выказваннем членаў камісіі, — гаварылі белліцэісты.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**



Дарыюш ЖУКОЎСКІ

* * *

Сёння ў сне я капаў хрэн
У нашым агародзе побач з хлявом.
Не памятаю толькі,
Ці я ўжо быў вышэйшым за рыдлёўку?
Я ўмеў знайсці яго і выкапаць,
Пазнаваў яго на зялёных лістах.
Я шукаў магічнага кораня
На Вялікдзень,
Каб Хрыстос мог поўнасцю ўваскрэснуць
І ў нашым доме, і ў гарадоцкай царкве
Прасвятой Багародзіцы Дзевы Марыі.
— Царква не ацяпляецца і мае натуральную вентыляцыю,
дзякуючы таму роспіс на сценах не паблякнуў і не пацямнеў,
— тлумачыць настаяцель царквы ў Гарадку.

Цяпер я ўжо ведаю з інтэрнэту:

«Больш за тое, ён таксама валодае бактэрыястатычнымі ўласцівасцямі,
што павышае імунітэт арганізма.»

* * *

Я хацеў бы мець такую сілу,
Каб на ўсіх палях
З карцін Лявона Тарасэвіча
Пасеяць збожжа,
Прачнуцца раніцай і, як сейбіт,
У разараныя барозны кідаць зерне
Жыта, пшаніцы, аўса.
Пасля назіраць увесь гэты
Комплекс працэсаў унутры зярняці,
Што прыводзіць да актывацыі зародка.
Пачатак росту сеянца канчае прарастанне
І гэта пачатак наступнай фазы развіцця,
Прарошчванне насення — ператварэнне зярняці ў расаду.
Перад тым як зерне прарасце, упітвае ваду з асяроддзя.
Рост расліны пачынаецца толькі тады,
Калі ўмовы дастаткова добрыя.
Я спадзяюся, што Лявон
Добра падрыхтаваў глебу для маёй працы.

* * *

Ці магу ў вас, мае калегі,
З першага «а» або «б» класа (ужо не памятаю)
Папрасіць прабачэння за маю адсутнасць адвагі,
За мае страхі перад навучаннем
Беларускай Мове,
Што не вучыўся з вамі
Мовы нашых сем'яў.
Гэта вы ведаеце як спрагаць
Дзеяслоў БЫЦЬ
Па асобах, часах, станах, ладах, ліках:

І спражэнне — быць

| Асоба | Адзіночны лік | Множны лік |
|---|---|---|
| 1 ас. | буду (budu) | будзем (budziem) |
| 2 ас. | будзеш (budzieš) | будзеце(budziecie) |
| 3 ас. | будзе (budzie) | будуць (buduć) |

Зараз я вучуся быць.

* * *

*А мая Айчына-Маці травой зарастае.*

Кожны дзень я праходжу міма парога старой хаты.
На гэтым парозе я неаднойчы вастрыў нажы,
Сядаў пасля збору грыбоў,
Выцiраў абутак.
Зараз я збіраю расліны для свайго гербарыя.
Гербарый, у строгім сэнсе гэтага слова, з'яўляецца формай збору навуковай дакументацыі.
Сушу іх у штодзённай газеце,
Прыціскаю іх непрачытанымі кнігамі («Wiersze tutejsze»),
Пераварочваю старонкі, пакуль расліны добра высахнуць.
Гэта трэба паўтараць да таго часу, пакуль расліны будуць цалкам сухія.
У апісанні даю ім польскі і лацінскі назовы:
*— аўсяніца трысняговая — kostrzewa trzcinowata (лац. Festuca arudinacea);*
*— аўсяніца авечая — kostrzewa owcza (лац. Festuca ovina);*
*— мятлік лугавы — wiechlina łąkowa (лац. Poa pratensis);*
*— мятліца тонкая — mietlica pospolita (лац. Agrostis capillaris, syn. Agrostis tenuis);*
*— плевел або райграс — życica trwała czyli rajgras angielski (лац. Lolium perenne).*
Не могуць быць гэта віды пад аховай.
Самае галоўнае, каб навучыцца распазнаваць расліны і трапна выбраць тэму.
Калі падрыхтоўка гербарыя мае навучыць асновам сістэматычнай батанікі,
Трэба абраць невыпадковую (іншымі словамі, амбітную) тэму.
Не ведаю, ці мая тэма амбітная:
«Зарастанне Айчыны-Маці травой».
Апісваючы месца, дзе гэты від выступае, запісваем назву мясцовасці!

# У Дзятлаве прэзентавалі альбом мастака з Бацютаў

У Дзятлаўскім гісторыка-краязнаўчым музеі Гарадзенскай вобласці адбылася прэзентацыя альбома беларускага кераміста, жывапісца і скульптара, сябра Саюза мастакоў Беларусі Мікалая Несцярэўскага „Яшчэ не ўсё зрабіў...", які ў канцы мінулага года выйшаў з друку ў Мінску.

Мікалай Несцярэўскі родам з вёскі Бацюты, але ў дзяцінстве разам з бацькамі аказаўся рэпатрыянтам і быў выселены па-за межы роднай Беласточчыны і апынуўся ў Дзятлаве. Тут ён і пражыў большую палову свайго жыцця. Цяпер мастак жыве ў Мінску.



Мікалай Несцярэўскі



На прэзентацыі альбома Мікалая Несцярэўскага выступілі яго землякі, сябры, супрацоўнікі музея, якія шчыра віталі таленавітага мастака і віншавалі яго з выхадам унікальнага альбома твораў мастака. Дзятлаўчанін Валерый Петрыкевіч і святар з Дзятлава а. Мікалай Пінчук прапанавалі скульптару зрабіць макет помніка Канстанціну Астрожскаму — гетману Вялікага Княства Літоўскага, дзяржаўнаму дзеячу, мецэнату, заснавальніку Дзятлава, а потым знайсці сродкі і ўстанавіць помнік у 2020 годзе ў Дзятлаве. Мастак Мікалай Несцярэўскі паабяцаў землякам выканаць іх просьбу. Усе прысутныя падтрымалі гэтую добрую ідэю.

Выступалі на вечарыне і землякі Мікалая Несцярэўскага з Беласточчыны, лёс якіх пасля Другой сусветнай вайны закінуў на Дзятлаўшчыну. Гэта Таіса Капчэўская і Вера Ціхановіч, якія шмат добрых слоў сказалі пра Мікалая Несцярэўскага, пра яго любоў да людзей, пра яго талент не толькі як мастака, але і як музыканта, спевака.

Супрацоўнік Дзятлаўскага райвыканкама Васіль Шуцько адзначыў, што Мікалай Несцярэўскі вельмі шчодры чалавек, які вялікую колькасць жывапісных палотнаў, прадметаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва перадаў у дар гісторыка-краязнаўчаму музею горада Дзятлава, ганаровым грамадзянінам якога ён з'яўляецца.

Вечарына адбывалася ў зале музея, дзе выстаўлены і падараваныя жывапісныя і керамічныя творы мастака з Бацютаў. Дзве залы ў музеі адведзены для твораў Мікалая Несцярэўскага. Дарэчы, мастаку сёлета 30 сакавіка споўнілася 86 гадоў з дня нараджэння.

**Сяргей ЧЫГРЫН**
**Фота аўтара**

# Засталіся адно ўспаміны (40)

У Малочкі мы ехалі з кінаперасоўкай з вялікай ахвотай, бо тамашнія людзі з кіношнікамі ладзілі станоўчыя адносіны. Калі ішлі на кінасеанс, дык заўжды ў кожнага былі поўныя кішэні семачак дыні ці сланечніку. Затым хапала ўсім — і гледачам, і кіношнікам. Пасля кінасеансаў падлога глядзельнай залы (збожжавага склада) была засмечана шалупіннем. Ды і з моладдзю я падружыў. З мясцовымі кавалерамі разам ішлі да дзяўчат, якія збіраліся пасля вячэрняга сеанса на лавачцы пры вуліцы і спявалі песні. А запяваламі былі сястрыцы Гануся і Марыся Саўчук. Калі яшчэ далучалася Марыся Філіманюк, дык заставалася адно слухаць. Цудоўна спявалі малочкаўскія дзяўчаты. Запамяталася мне такое здарэнне. Было гэта ў першых пачатках маёй працы ў кінаперасоўцы. Як заўжды заехалі мы ў Малочкі ды спыніліся каля мясцовай крамы. Сардэчна прывіталіся з гаспадаром Валодзем Бэнэдзюком. А паколькі было гэта пры свяце, дык Валодзя запрасіў нас на пачастунак. Закуску рыхтавала Валодзева жонка, Оля — прыгожая, сімпатычная кабетка і вясёлая кампаньёнка. У гаспадароў быў радыёпрыёмнік «Сталіца» з грамафонам. Я прынёс пласцінкі з савецкімі песнямі (спяваў Омскі народны ансамбль песні і танца ды іншыя калектывы) і з гаспадыняй слухалі ў спальні


Сцяпан Каляда (злева) і Янка Гапанюк

музыку. Гаспадару гэта не спадабалася. Калі мяне папрасіў далучыцца да мужчынскай кампаніі, якую складалі шафёр Валодзя Скепка і кінамеханік Алік Чэрнянін, і я адмовіўся, дык Валодзька накінуўся на жонку. Брыдка яе назваў і хацеў шпурнуць табурэткай. Я, разумеецца, не дазволіў яму пакрыўдзіць жонку. Пачалася калатнеча. Шафёр з механікам убачыўшы, што заносіцца на скандал, дык выйшлі з-за стала і падаліся ў машыну. Я з пласцінкамі за імі хуценька адправіўся пад збожжавы склад, у якім дэманстравалі кінафільмы. Валодзя Бэнэдзюк, якому сорамна стала, пэўна паўгода не заходзіў у кіно. Іхняе сужонства распалася. Валодзя ажаніўся другі раз. Яго нявеста паходзіла з Нурца каля Дубна. А што было гэта ў зімовы час, дык Бэнэдзюк папрасіў нас, каб вясельнікаў падвезці на машыне да шлюбнага дома. Мы, разумеецца, не адмовіліся. Затым пачаставалі нас вясельнымі прысмакамі і караваем. Праз некалькі год я Олю спаткаў у краме пры рашарні ў Бельску. Працавала прадаўшчыцай. Зразу не пазнаў.

— Што не пазналі, пан Владэк, — з усмешкай запытала прадаўшчыца.

Тады прыпомніліся мне Малочкі. З таго часу прайшло больш пяцідзесяці гадоў. Па вясёлых буднях даўняй маладосці засталіся адно ўспаміны. З таго, што мне стала вядомым з даўнейшай малочкаўскай кавалеркі мала хто застаўся. Памерлі Янка Маркевіч, сын маіх гаспадароў, ды Янка Голуб. Толькі з Янкам Гапанюком часам спаткаемся на праваднуе нядзелю на могільніку ў Чаромсе, дзе пахаваны яго суродзіч Федзя Гапанюк, які працаваў на паравозным дэпо машыністам. Янка Гапанюк сябруе з маім сардэчным прыяцелем Сцяпанам Калядой з Бельска-Падляшскага. Удалося мне зрабіць ім здымак. Вось мае задушэўныя калегі з даўнейшага мінулага. А са Сцёпам Калядой, еўрапейскім валацугам, які палову Еўропы наведаў з экскурсіямі царкоўнага брацтва, будзе яшчэ нагода пагаварыць, аб чым і напішу ў «Ніву».

(працяг будзе)

Уладзімір СІДАРУК




Этнаграфія — частка гістарычнай навукі, якая найбольш цікава тым, каму залежыць на вывучэнні роднага краю. Збіранне разнастайнага фальклору, сведчанняў традыцыйнай культуры і асаблівасцей пражывання людзей на той ці іншай тэрыторыі прываблівае тых, хто любіць свой народ і стараецца даведацца пра ўсё, што з ім звязана.

У Беларусі шмат моладзі апошнім часам цікавіцца этнаграфіяй, таму не дзіўна, што не так даўно ў інтэрнэце ўзнік арыгінальны сайт, які ўжо з'яўляецца вынікам такой зацікаўленасці. „Этнаўсё" — гэткую назву прыдумалі для свайго інтэрнэт-праекта аматары этнаграфіі, якія размясцілі сайт па адрасе http://ethno.by.

Калі зазірнуць на дадзены сайт, то ён можа падацца даволі сумным, хоць і зроблены вельмі дбайна і па-сучаснаму. Некія раздзелы, не надта кідкія слайды і суцэльная тэкставая інфармацыя. Але не ўсё так адназначна, бо дадзены сайт будзе вельмі карысны тым, каму цікава даведацца пра беларускія мясцовасці і ўсё, што з імі звязана, паслухаць запісы радыёперадач і аўдыёвыданняў, паглядзець мастацкія і дакументальныя фільмы па тэме этнаграфіі, азнаёміцца з артыкуламі ў прэсе з прывязкай да персаналій, падзей, лакацый і гэтак далей.

Справа ў тым, што дадзены сайт — гэта першая ў Беларусі анлайн-медыятэка па этнаграфіі. „Анлайн-медыятэка ўтрымлівае публікацыі па этнаграфіі (аўдыё, відэа, кнігі, прэса і г.д.) па рэгіёнах, тэмах, персаналіях, калектывах. На публічным сайце дасяжныя пошук, каталогі і апісанні публікацый. Азнаёміцца са зместам пакуль можна ў рэжыме бібліятэкі. Юрыдычныя нюансы дыстанцыйнага доступу да публікацый актыўна прапрацоўваюцца", — тлумачыцца на першай старонцы ўнікальнага сайта.

Стваральнікі медыятэкі „Этнаўсё" сцвярджаюць, што ў адрозненні ад бібліятэк, яны не спыняюцца толькі на каталогах публікацый, а развіваюць тэму далей: ужо гатовыя ці распрацоўваюцца інструменты для аналізу і картаграфавання, уліку асобных адзінак (песень, танцаў, прадметаў і г.д.). „Па меры апрацоўкі дадзеных, стане магчымым, напрыклад, пошук па запыце „калядныя песні" + „з вёскі Такойтавічы" + „запісаныя да 1980 года" + „з мелодыямі". У планах — інтэрнэт-радыё, выхад на міжнародныя бібліятэчныя сістэмы і яшчэ многа ўсяго", — распавядаюць пра сваё бачанне ўласных перспектыў аматары беларускай этнаграфіі.

Новы для беларусаў праект не застаўся не заўважаным іншымі медыямі. Так, радыё „Свабода" ўжо паспела пагутарыць з каардынатарам праекта Яўгенам Барышнікавым, які распавёў, што з ім разам працуюць 10 чалавек у актыўным рэжыме і 50 — у пасіўным. Паводле яго, сайт складаецца з дзвюх частак. У публічнай частцы знаходзяцца каталогі і апісанні публікацый — усё, што можна апублікаваць, не парушаючы аўтарскіх правоў. Другая частка — гэта анлайн-бібліятэка, дзе зарэгістраваны карыстальнік можа, не парушаючы закона, глядзець, чытаць і слухаць этнаграфічныя матэрыялы.

Варта адзначыць, што сайт развіваецца і яму патрэбна фінансавая дапамога. Каб яе атрымаць, яго ўладальнікі стварылі на краўдфандынгавай платформе „Талака.by" сваю старонку для збору сродкаў. Тых, хто яе акажа, чакаюць разнастайныя ільготы пры карыстанні сайтам і падарункі.

Аляксандр ЯКІМЮК

Дата з календара

Падзеі і асобы БНР



## 115 гадоў з дня нараджэння
# Платона Галавача

Беларускі пісьменнік Платон Галавач, які ў час абвяшчэння БНР быў ужо юнаком, нарадзіўся 18 красавіка 1903 г. у вёсцы Пабокавічы на Бабруйшчыне. Паходзіў ён з беднай сялянскай сям'і. Рана застаўся без маці, а асірацеўшы, наймаўся пасвіць кароў. Падросшы, ён звязаўся з камсамолам, вучыўся ў Мінску ў партыйнай школе, адначасна быў інструктарам Барысаўскага павятовага камітэта камсамола. А калі скончыў камуністычны ўніверсітэт на стала перабраўся ў Мінск, дзе працаваў першым сакратаром ЦК ЛКСМБ і рэдактарам газеты „Чырвоная змена". Галавач быў адным з кіраўнікоў літаратурных арганізацый „Маладняк", БелАПП. У розны час рэдагаваў часопісы „Маладняк", „Полымя". З самага пачатку сваёй літаратурнай дзейнасці Галавач змагаўся за чысціню роднае мовы, за яе дакладнасць і выразнасць. Пісьменнік Ян Скрыган так успамінаў пра Галавача: „Любіў глядзець трошачкі спадылба, гаварыў вельмі спакойна і ціха, голас у яго быў мяккі, з малюсенькім насавым гучаннем. І здалося зусім нечаканым, што няма ў яго ні рэзкага жэсту, які звычайна выпрацоўвае прафесія, ні строгага позірку, ні павышанай камандзірскай ноты — усё па-чалавечы проста і душэўна".

Публікавацца Платон Галавач пачаў у 1921 г. Сімвалічна, што першае апавяданне называлася „Загубленае жыццё". У 1927 г. выйшла кніга апавяданняў „Дробязі жыцця". Тэматыка шматлікіх аповесцей, апавяданняў, нарысаў звязана з грамадзянскай вайной і жыццём вёскі. Яго творы карысталіся поспехам, перакладаліся на рускую, польскую, украінскую, чэшскую, ідыш і іншыя мовы. Многія яго творы засталіся няскончанымі, у тым ліку кніга пра паўстанне 1863 г. і асобу Кастуся Каліноўскага.

Партыйную кар'еру, літаратурную творчасць і жыццё пісьменніка абарваў сталінскі генацыд. 11 жніўня 1937 г. Галавач быў арыштаваны. У часператрусу энкавэдэшнікі канфіскавалі 67 сшыткаў рукапісаў (магчыма, сярод іх быў і раман „Ён").

У турме НКВД лёс звёў Галавача з яшчэ адным рэпрэсаваным пісьменнікам Станіславам Шушкевічам, які пазней успамінаў: „Платона Галавача і Васіля Каваля я бачыў апошні раз 3 кастрычніка 1937 г. Іх прывялі сведчыць супраць мяне. Скатаваны і знясілены Платон Раманавіч доўга маўчаў... Нарэшце загаварыў: «За мной няма ніякай віны, таксама, як і за кожным з нас». Сказаў і заплакаў...". Перад судом Галавач пакінуў у камеры запіску: „Таварышы, даруйце, калі чым вінаваты перад вамі. Гісторыя яшчэ скажа праўду пра нас. Платон".

28 кастрычніка 1937 г. адбыўся „суд", які доўжыўся 15 хвілін. Змучаны Галавач прызнаў сябе вінаватым. Тройкай НКВД асуджаны як „арганізатар тэрарыстычнай групоўкі" і за „правядзенне нямецка-фашысцкай дзейнасці" да вышэйшае меры пакарання з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны праз некалькі гадзін пасля прысуду. Сям'я пра гэта нічога не ведала, ёй толькі праз сем гадоў было абвешчана, што Галавач памёр 25 снежня 1944 г. у лагеры ад паралюшу сэрца. Рэабілітаваны пісьменнік толькі 25 ліпеня 1956 г. Жонка пісьменніка Ніка Вечар была таксама арыштавана ў лістападзе 1937 г., пазней засуджаная да 8 гадоў савецкага канцлагера, была зняволена ў Казахстане. Пасля вызвалення вярнулася на радзіму, таксама рэабілітаваная ў 1956 г.

Імем Галавача названы вуліца і завулак у Бабруйску. У 1968 г. на будынку Гарбацэвіцкай школы Бабруйскага раёна, дзе вучыўся Галавач, адкрыта мемарыяльная дошка.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ




# Сяброўская сустрэча

З Валодзем Данілюком пазнаёміліся мы ў пачатках шасцідзясятых гадоў, калі мы заязджалі ў Маліннікі з кінаперасоўкай. Валодзя — сардэчны калега, добразычлівы чалавек. Яму зараз семдзесят дзевяць гадоў. Трынаццаць гадоў працаваў ён пісьманосцам у Рыгораўцах, дбаў пра пастаянных падпісчыкаў. Штотыдзень даручаў ён больш за трыццаць экземпляраў «Нівы». Наша знаёмства доўжыцца па сённяшні дзень, абмяньваемся навінкамі па тэлефоне, пры нагодзе сустракаемся пры святочным застоллі. Штогод пасылае мне віншаванні з нагоды дня нараджэння, які адзначаю ў студзені, на Вадохрышча. Сёголета я вымушаны быў адтэрмінаваць імпрэзу. Валодзя павіншаваў мяне ў студзені. Але сустрэліся мы адно пры святочным стале на Праваднуючы нядзелю. Падарунак з віншавальным лістом, разумеецца, з выпісанай датай 19 студзеня, прывёз з сабою.

«Паважаны Спадар Валодзя, — піша сябра. — З нагоды дня народзін зычу табе дачакаць стагоддзя. Таксама зычу самых сонечных дзён, каб у тваю хату самыя добрыя справы плылі. Яшчэ зычу ў жыцці, каб у кожнай кішэні заўсёды грошы былі. Маліннікі, дн. 19.01.2018 года». Мы прасядзелі за святочным сталом больш за чатыры гадзіны. Успаміналі мінулае ды старых сяброў, хоць іх лік што і раз змяншаецца, адыходзяць у вечны спачын. Але мы аб іх памятаем і ўспамінаем добрым словам. Так было і ў Праваднуючы нядзелю сёлета. Добра мець такіх сяброў як Валодзя з Маліннік.

Уладзімір СІДАРУК

# Цэны нерухомасцей

30 сакавіка г.г. на сесіі Арлянскай Гміннай рады ў багатым парадку дня была пастанова наконт усталявання велічыні працэнтнай стаўкі сумежнай аплаты (opłaty adiacenckiej) на тэрыторыі Арлянскай гміны.

Амаль не здараецца, каб радныя аднадушна адмовіліся прыняць прапанаваную пастанову. Гэтым разам так сталася.

Войт Арлянскай гміны Пётр Сэльвесюк патлумачыў гэта так:

— Сумежная аплата вынікае з веку і вартасці сумежных нерухомасцей. Напрыклад, гміна пракладвае асфальтавую дарогу і, калі яшчэ няма, то і водаправод ды каналізацыю. Такім чынам узрастае вартасць сумежных з дарогай нерухомасцей. І калі нехта захоча купіць нерухомасць, якая прылягае да грунтавой дарогі, то яна павінна быць таннейшая за нерухомасць пры асфальтоўцы, дзе яшчэ ёсць і водаправод. Улічваючы гэта Гмінная рада павінна згодна законам прыняць пастанову, у сілу якой жыхары павінны несці выдаткі на падставе росту вартасці нерухомасці, значыць сумежныя аплаты.

Мы ніколі чагосьці падобнага не рабілі і не хочам рабіць, бо гэта датычыць кожнай вёскі. Цяпер, напрыклад, будзем мадэрнізаваць дарогу ў Пашкоўшчыну, то можна і там прылічваць аплаты. Пракладалі прыгожую дарогу ў Рыгораўцах, то і там трэба было б далічваць аплаты. У кожнай вёсцы былі выканаваны нейкія дарожныя работы. Факт, што гэтая справа апынулася ў парадку працы сесіі, з'яўляецца вынікам паслякантрольных рэкамендацый Рэгіянальнай разліковай палаты, аднак я папрасіў радных, каб такой пастановы не прымаць, бо гэта толькі абцяжарыць дамашнія бюджэты, а гміна ад гэтага не пабагацее. Я лічу, што наяўнасць ці адсутнасць аплат павінна быць вынікам суверэннага рашэння Рады, войта ці яго працаўнікоў.

Радныя прагаласавалі за адхіленне прапановы.

Міхал МІНЦЭВІЧ






## ЗАПРАШЭННЕ

Аб'яднанне АБ-БА сардэчна запрашае на Дыскусійны клуб АБ-Бы

**Пагаворым пра палескія вандроўкі**

**з Ганнай Кандрацюк-Свярубскай,**

рэпарцёркай, журналісткай тыднёвіка беларусаў у Польшчы "Ніва"

19.04.2018 (чацвер) 18.00

*Склеп з культурай Аб'яднання АБ-БА вул.Чэнстахоўская 6а, Беласток.*

# 22.04 — 28.04

**(22.03. — 20.04.)** Сваю вартасць для фірмы дакажаш 22-26.04. 22-23.04. поўны кашалёк. Добрыя задумы. Дні з ноткай незвычайнасці. Цані дробязі, чакае цябе ўзнагарода. Не разлічвай на спакойны час дома з 24.04. Добрая энергія і ўдачы ў здароўі. Трэба будзе кудысьці з'ездзіць, штосьці аформіць у апошнюю хвіліну. Справішся.

**(21.04. — 21.05.)** Паявяцца новыя кантакты. Наўкола цябе ветлівыя, спрыяльныя людзі і ўстановы. З 24.04. будзеш мець добрыя ідэі як раскруціць сваю кар'еру. Будзеш энтузіястычны і адважны. Варта зайграць у адкрытую карту і прызнацца ў сваіх пачуццях. Сваю фірму засноўвай з 28.04. Важныя справы набяруць тэмпу.

**(22.05. — 22.06.)** Пакуль будзь ашчадным у выказванні сваіх пачуццяў і думак. Стануць вастрэйшымі твой досціп і інтэлектуальныя магчымасці. Калі закахаешся перад 24.04., можаш кепска трапіць і перажыць расчараванне. 25-27.04. можаш схацець закончыць адносіны. Пасля 24.04. чакаюць цябе новыя знаёмствы. 25-27.04. можа цябе штосьці занепакоіць у здароўі; можа хопіць змяніць дыету або стыль жыцця і ўсё вернецца да нормы. 25-27.04. твая аргументацыя можа не трапляць да адрасатаў.

**(23.06. — 23.07.)** Адвага. Вялікія ўдачы ў іншага полу. Рух у інтарэсах на пачатку тыдня. Новыя прыцягальныя знаёмствы; падумай, што вас сапраўды прыцягвае і ці варта пачынаць адносіны з малавядомымі людзьмі, з якімі маем мала супольнага. На працы пачнеш высока сябе цаніць. 22-26.04. вельмі карысныя прапановы, хуткія трапныя рашэнні. Але патрабаванні ў адносінах да цябе павялічацца. Дома не замятай праблем пад дыван. Знакамітыя задумы для здабыцця дадатковых грошай.

**(24.07. — 23.08.)** Самаўпэўненасць, аператыўнасць, кемлівасць, хуткія рашэнні. Рэкордныя вынікі на працы. Інвестуй у сябе. Хадзі на мілыя сустрэчы. Не шкадуй сабе фліртавання! Можаш таксама праверыць сябе як галава сям'і, арганізаваць вырашэнне складанай справы з адміністрацыяй. Твая дапамога камусьці спатрэбіцца. 25-27.04. не пачынай нічога фальстартам, бо трэба пачынаць будзе нанова.

**(24.08. — 23.09.)** Справішся з усім, пераскочыш любую перашкоду. Выкарыстай шанцы на каханне. Сярод радні і сяброў будзь сабою. На працы адкрыюцца новыя шанцы. Пашырай свае веды, чытай спецыялістычную літаратуру, хадзі на курсы. Паправа здароўя. 26-28.04. твае выбары будуць трапныя.

**(24.09. — 23.10.)** Старайся не быць легкадумным. З 24.04 можаш стаць ахвярай зласлівай інтрыгі. Выходзь на імпрэзы з сябрамі — гэта шанцы для самотных Шаляў. 26-27.04. у коле знаёмых можа паявіцца хтосьці новы і вельмі цікавы; дарога да яго сэрца вядзе праз сяброўства. На працы развінеш свой патэнцыял. Хадзі да дыетолага.

**(24.10. — 22.11.)** Зоркі падтрымліваюць твае мерапрыемствы. Зялёнае святло для пошукаў кахання. 22-26.04. у спальні не будзе нудна! Калі ты з другой дэкады, неўзабаве пачуеш вясельныя званы або плач дзіцятка. Не дай сябе ўцягнуць ва ўнутраныя розыгрышы на працы 24-28.04. Прымяняй касметыку са сваёй кухні.

**(23.11. — 22.12.)** Нагоды да збірання новага вопыту. Будзь асцярожны — пазбегнеш пастак. 22-26.04. будзеш баявіты і моцны, змагайся за сваё. У пары расхмурыцца неба, падумайце пра супольную паездку. У мілых акалічнасцях наладзіш новыя знаёмствы, а адно даўжэйшае. Прыйдзецца працаваць на апошнюю хвіліну. На працы заззяй новымі ведамі, інвестуй у сябе, выказвайся на сходах. Выкінь з халадзільніка ласункі, тлустыя сыры і мяса, еж часцей рыбу.

**(23.12. — 20.01.)** Новыя сілы, радасць і воля дзейнасці. Поспехі ў кампаніі, удачы ў каханні, прыязнасць супрацоўнікаў. Адкрыеш у сабе патрэбы і жаданні, пра якія не ведаў. Поспехі на працы, добрыя вынікі; шэф пераканаецца 22-26.04., хто мае найлепшыя кваліфікацыі, а хто толькі балбоча. Рабі сваё і чакай добрага абароту спраў. 22-27.04. не будзь халодным і бязлітасным.

**(21.01. — 19.02.)** Бяры на сябе заданні, якія патрабуюць самастойнасці і хуткіх рашэнняў. Шанцы на незабыўны раман! 24.04. самотны Вадалей можа пазнаёміцца з кімсьці, з кім раман будзе інтэлектуальнай прыгодай і нават калі кончыцца хутка, застанецца файнае знаёмства. 25-27.04. можа прытрапіцца канфлікт з супрацоўнікамі, калі не хочацца табе працаваць у калектыве; шэф як арбітр на тваім баку хутчэй не стане.

**(20.02. — 21.03.)** Разлічвай на добрыя выпадкі. Падтрымка атачэння. Дай шанцы партнёру цябе ашчасліўіць. Не параўноўвай партнёра з зоркамі. Скажы выразна, чаго табе трэба. Прыемнасці ад сямейнага жыцця. Рыба з другой дэкады — можаш пайсці вышэй ці рушыць з уласным бізнесам. Але не кідай паперамі з-за таго, што на цябе хтосьці крыва глянуў! Не палі мастоў, бо можаш трапіць горш. Пільнуйся на слізкіх і мокрых паверхнях.

Агата АРЛЯНСКАЯ

# Адгаданка

**1.** вязальная спіца, **2.** верніцкая абшчына з настаяцелем, **3.** спіна або горны ланцуг, **4.** абрыс, контур, **5.** сталіца ВКЛ, **6.** галоўны ў гміне, **7.** драпежны пушны звярок, у якога... сук, **8.** выключнае права, ільгота.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

**(ш)**

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | | | | | | | 2 |
| | 3 | | | | | 4 | | | 5 | | |
| | | | | | | | | | | | |
| | | 6 | | 7 | | | | | 8 | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 13 нумара**

Ас, бізон, вуліца, вярба, настой, цьма, шына, ява.

Рашэнне: **Нават найбольш суровая зіма баіцца вясны**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анэце Цілюлька** і **Анне Дэм'янюк**.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.




# „Белавежы” – гадоў 55. Родныя словы нам усім чытаць!

Графіка Міраслава Здрайкоўскага з ніўскага календара з 2013 года

1 ☞ працяг ў працягу дасць цікавыя гістарычныя аповесці. Прыгажуня Зося Бусловіч 29 снежня 1957 г. распачне сваю багатую вершаваную творчасць вершам пра «Зіму». З Гарадка адазвецца Восіп Мялеша вершамі пра жыццё і каханне. Пішуць зрэдчас і дзяўчаты, як Вера Буйка з Семяноўкі. Уключаюцца Янка Беразавец (8 верасня 1957 г.) і Андрэй Беразавец (14 красавіка 1958 г.) з Варшавы, Яўген Навіцкі з Юшкавага Груда, Георгій Карэтка прысылае «Ліст з турмы» (2.03.1958 г.), шпарыць лірыку і сатыру нейкі засакрэчаны "Янка Ігнатка з Бельскага павета» — праз гады аказваецца, што гэта дзяўчо, з Целушок — Надзея Іванюк. Пішуць Ніна Шатыловіч і Дзмітрый Шатыловіч з Варшавы (23 мая 1958 г.). Уладзімір Паўлючук з Рыбал — неўзабаве масціты празаік і навуковец, падсылае празатарскія допісы. З Мастаўлян азываецца Анатоль Парэмбскі. З Рэспублікі Комі прысылае свае вершы Сяргей Анішчык («Жыве Радзіма»). Юзаф Рыбінскі (Верас) пачынае працаваць на штаце, прадказваючы вялікі празатарскі талент. Прыходзяць вершы ад Міколы Красоўскага з Аполя (ён папраўдзе з Кленік). Выбухае талент Віктара Шведа, ужо трыццацігадовага, які піша не ад сёння, але калі паяўляецца наша газета, мае дзе друкаваць свае творы. «Я беларус! І гэтым ганаруся!» — абвяшчае ў вершы, надрукаваным 24 сакавіка 1957 г. «Квітней наша „Ніва”» — заклікае 1 студзеня 1958 г., заахвочваючы **гуртавацца ўсім**, хто шануе родную мову. На старонках «Нівы» пасля задэбютуе каля трохсот асоб. «Беларускім паэтам і пісьменнікам патрэбна арганізацыя» — 9 лютага 1958 года закліча С. Я. — Яша Бурш (Янка Анісэровіч — Іван Бокша). І 8 чэрвеня ў рэдакцыі «Нівы» збяруцца яны разам, каб зварухнуць свой вазок на родную сцежку.

Георгій Валкавыцкі пісаў на першай **Літаратурнай старонцы** 29 чэрвеня 1958 г.:

— Ужо трэці год выдаецца «Ніва», ужо трэці год на яе старонках час ад часу з’яўляюцца вершы мясцовых аўтараў, выступаюць новыя імёны. Пераважна гэта маладыя, пачынаючыя паэты, творчая біяграфія якіх непарыўна звязана з «Нівай». Часам само з’яўленне «Нівы» ў больш чулых сэрцах выклікала хваляванне, якое вылівалася на паперы ў выглядзе вершаў. Не аднаму гэтыя першыя вершы і былі штуршком да спробы сваіх сіл на паэтычнай ніве. Гэтак было з Уладзімірам Гайдуком (...) і іншымі паэтамі. Але тыя, што і раней пісалі, толькі з выхадам «Нівы» пачалі сваёй творчасці прыдаваць больш сур’ёзнае значэнне. Так было з Андрэем Сошкам. Частка маладых аўтараў уключылася ў творчую працу пасля значнага перапынку, гэта было з Віктарам Шведам і Дзмітрыем Шатыловічам. Адгукнуліся і тыя, як Мікола Буцылін, якія яшчэ ў міжваенны перыяд шукалі ў паэзіі шчасця... (...) Бацькаўшчына, прырода, мова! Добра. Будзем пісаць. Але адкінем дэкларатыўнасць (...), выплывем з магічнага трохвугольніка на шырэйшыя воды».


Георгій Валкавыцкі

БЕЛАВЕЖА




Літаратурная старонка

І пачалося. Праз дэбюты ў «Парнасіку», адразу на літаратурнай старонцы (як Надзея Артымовіч).. Найбольш — у сямідзесятыя гады. У ліцэі і ў сталыя гады. Агнія, Аліфер Марыя, Андрасюк Міхал, Анішэўская Алена, Анхім Люся, Артымовіч Надзея, Асунок, Баена Юрый, Базылюк Марыля, Бандарук Кастусь, Баравік Ірэна, Барскі Алесь, Баршчэўскі Аляксандр, Баршчэўскі Васіль, Брацкі Янка, Бурш Яша, Буцылін Мікола, Вапа Яўген, Варанецкі Мікалай, Гайдук Мікола, Гайдук Уладзімір, Геніюш Юрка, Грушка Тодар, Зубрыцкі Юрка (ён жа і Валкавыцкі), Казюк Лаўрэн, Кандрацюк Ганна, Карпюк Язэп, Кірызюк Іван, Красоўскі Мікола, Леанюк Вераніка, Лукша Міра, Мартынюк Жэня, Руско Барыс, Саўчук Уладзімір, Сачко Зося, Свентахоўская Ірына, Свісёк Алесь, Смыла Багдан, Сошка Андрэй, Стаськевіч Зося, Стахвюк Віктар, Субач Пранук, Танкевіч Леапольд, Трачук Юрка, Харкевіч Юрка, Хілецкая Ліля, Хлябіч Фёдар, Хлябіч Ягор, Целушэцкі Янка, Чыквін Ян, Шатыловіч Дзмітрый, Шаховіч Міхась, Швед Віктар, Шклярук Уладзімір, Шостак Яніна, Шымчук Анна, Яновіч Сакрат. Сотні тых, хто ў родным слове спрабаваў выказаць сябе і роднае. Штораз маладзейшыя — Буйнюк Юрка, Сянкевіч Кацярына... З «Літаратурнай старонкі» выраслі «Год Беларускі» і «Тэрмапілы». Маладыя аўтары, крытыкі і выдаўцы пайшлі шырэй — у «Бязмежжа». Гартаем пажоўклыя старонкі «Нівы», выданняў сотняў загалоўкаў. З хваляваннем і цікаўнасцю. З успамінам. Сярод нас ужо няма шмат каго са свойскіх пісьменнікаў, але засталася памятка іх таленту і духу — запісаныя, задрукаваныя стронкі. Дзясяткі гадоў.

Сэрцашчымнае хваляванне. Малітва да роднага слова. І зноў Алесь Барскі:

*І я, і боль, і ціша,*
*а на падлозе шкельцы ўспамінаў.*
*Збіраю іх —*
*складаю вершы-фрэскі*
*у форму вобліку Айчыны.*

Міра ЛУКША

ISSN 0546-1960 16